*Наглядальны савет Парка высокіх тэхналогій прыняў рашэнне аб рэгістрацыі 56 новых рэзідэнтаў. Такім чынам, сёння ў парку налічваецца ўжо 505 кампаній.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою.*
*Якуб КОЛАС*

**№ 28 (4383)**

9 красавіка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВЕРСИЯ




## У Беларуси вновь появился интерес к кредиту МВФ

**Белорусская делегация во главе с министром экономики примет участие в весенней сессии Международного валютного фонда. Традиционный визит в США может стать началом очередных и длительных переговоров между Беларусью и очень требовательным кредитором.**

В составе делегации – министр экономики **Дмитрий Крутой**, министр финансов **Максим Ермолович** и заместитель председателя правления Нацбанка **Дмитрий Калечиц**.

Традиционно программа переговоров не афишируется, но очевидно, что перед столь представительной делегацией стоит очень серьезная задача.

Экономические власти отмечают, что в условиях возможного выпадения значительных доходов (из-за налогового маневра России в нефтяной отрасли) стране нужно искать финансовые ресурсы, и не какие-нибудь, а «длинные» и дешевые.

*«Перед Министерством финансов стоит сложная задача поиска долгосрочных и максимально дешевых источников несвязанных кредитных ресурсов, которые могли бы быть использованы для рефинансирования долга»*, – говорится в материалах расширенной коллегии Минфина, которые опубликованы в последнем номере журнала «Финансы, учет, аудит», издаваемого министерством.

Таковыми, по мнению министерства, могут быть как двусторонние кредиты, так и облигации, размещаемые на внешних финансовых рынках. Министерство финансов также не исключает возможности возобновления переговоров с МВФ по программе расширенного финансирования.

Возможно, переговоры по кредитной программе могут возобновиться уже на полях весенней сессии МВФ и Всемирного банка, которая на этой неделе состоится в Вашингтоне.

После того как Минфин в декабре 2018 года досрочно вернул долги на 406,6 млн евро, уточненный график обязательств Беларуси выглядит следующим образом. В 2019 году, согласно февральским данным Минфина, долговые выплаты Беларуси составят 3,5 млрд долларов, в 2020-м – 3,9 млрд долларов, в 2021 году – 3,7 млрд долларов.

«Напряженный график платежей» по госдолгу, как называют его власти, заставляет искать деньги по всему миру для рефинансирования долговых выплат. Кредит МВФ – один из самых дешевых вариантов решения этой задачи.

(Naviny.by.)

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Грамадскаму актывісту Паўлу Севярынцу далі 15 сутак за Курапаты

Як толькі пачаўся працэс разгляду яго адміністрацыйнай справы, П.Севярынец сказаў, што не даверае суду, і заявіў адвод суддзі. Але яго хадайніцтва было адхілена, як і патрабаванне весці суд на беларускай мове.

У ролі сведак выступілі два амапаўцы. Паводле іх слоў, Павел Севярынец "перашкаджаў працы будаўнікоў і адмовіўся ісці ў міліцэйскі аўтамабіль, калі яго затрымалі".

Тры дні Севярынец ужо правёў у ізалятары часовага ўтрымання. Няўжо яму давядзецца быць у няволі яшчэ 12 сутак?

**Рыгор КАРНІЦКІ.**

ПРАТЭСТ

## Зміцер Дашкевіч патрабуе ад пракуратуры…

*Грамадскі актывіст Зміцер Дашкевіч звярнуўся ў пракуратуру з заявай у сувязі з выкопваннем у Курапатах 70 крыжоў.*



"Гэтыя крыжы летась усталёўваў я са сваімі сябрамі, на большую частку матэрыялаў (дрэва, жалеза, прапіткі) мы маем квіткі і таму расцэньваем гэты вандалізм як крадзеж маёмасці соцень людзей, якія ахвяравалі грошы на крыжы і іх усталёўвалі", – падкрэсліў у сваім звароце Дашкевіч.

Паколькі дэмантаж крыжоў прайшоў без афармлення неабходных дакументаў і без прыняцця юрыдычных рашэнняў, то вінаватыя павінны панесці адпаведнае пакаранне.

«Чаму 13 крыжоў ля дарогі Заслаўе–Калодзішчы былі знішчаны за 15 сутак да выстаўленай нам прэтэнзіі? Чаму мы не мелі часу абскардзіць рашэнне ў судзе? А мы б яго абскардзілі, бо, згодна з пастановай Мінкульта №70 ад 1 снежня 2013 года аб зонах аховы мемарыяла Курапаты, «на тэрыторыі гісторыка-культурнай каштоўнасці дазваляецца правядзенне работ па ўшанаванні памяці ахвяр палітычных рэпрэсій», – заўважыў Зміцер Дашкевіч.

**Анатоль ГУБСКІ.**

БЕЗ РЭТУШЫ



Валерый КАРБАЛЕВІЧ

## Украінскі ўрок для спадарыні Ярмошынай

Як вядома, старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Беларусі Лідзія Ярмошына была назіральнікам на прэзідэнцкіх выбарах ва Украіне. Па вяртанні дадому яна заявіла: *"Можна павіншаваць маіх калег з бездакорнай арганізацыяй выбарчага працэсу... ніякіх сумненняў у атрыманых выніках няма і не можа быць"*.

Выснова слушная. Аднак узнікае пытанне: чаму б, спадарыня Ярмошына, такім жа чынам не правесці выбары і ў Беларусі, каб ні ў нашага электарату, ні ў апазіцыі, ні ў назіральнікаў АБСЕ таксама не было ніякіх сумненняў у атрыманых выніках?

Пагадзіцеся: на жаль, нічога падобнага ў нас няма. І мне зразумела, чаму, скажам, Л.Ярмошына не ставіць пытанне аб адмене датэрміновага галасавання, якое ва Украіне адсутнічае даўным-даўно. Не трэба ёй, і каб выбарчыя камісіі фарміраваліся грамадствам, а не ўладамі. А пра адкрыты падлік галасоў яна, вядома ж, і гаварыць не хоча.

Нагадаю яшчэ, чым украінскія выбары адрозніваюцца ад беларускіх. Там кандыдаты ў прэзідэнты маюць права на ўключэнне сваіх прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі. Падлік галасоў адбываецца празрыста і галосна, кожны бюлетэнь паказваецца ўсім назіральнікам. Нічога гэтага ў Беларусі няма.

Тое, што адбывалася ва Украіне, зусім не падобна на волевыяўленне беларусаў. Выбары ва Украіне – нармальныя выбары. З усімі атрыбутамі, якія ўласцівыя сапраўднай выбарчай кампаніі: жорсткая барацьба, кампрамат кандыдатаў адзін на аднаго, узаемныя абвінавачванні. Так праходзяць выбары ва ўсіх дэмакратычных краінах. Узгадаем, як драматычна праводзілася апошняя прэзідэнцкая кампанія ў ЗША. Усё гэта можа здацца дзіўным для жыхароў тых краін, у якіх рэальных выбараў няма, а ёсць толькі іх імітацыя – як у Расіі і Беларусі. Менавіта таму расійскія тэлеканалы так крытычна ацэньваюць украінскія выбары.

Нечаканыя вынікі могуць быць толькі падчас сапраўдных выбараў. Калі іх вынікі загадзя вядомы (а ў нас і ў Расіі менавіта так), то цяжка назваць гэта рэальным волевыяўленнем народа. А калі даюць лічбу пераможцы пад 80, а то і больш працэнтаў, то тут ужо ўсім усё ясна. Бо падчас дэмакратычных выбараў такіх лічбаў проста не бывае.

У апошнія дні мне многія задавалі пытанне, ці магчыма ў Беларусі раптоўнае з'яўленне такога пазасістэмнага кандыдата, якім стаў Уладзімір Зяленскі на ўкраінскіх выбарах?

Справа ў тым, што дзеля гэтага ў краіне павінна існаваць публічная палітыка, палітычныя дыскусіі, пастаянны дыялог паміж рознымі грамадскімі арганізацыямі і персонамі на інфармацыйных экранах, якія бачыць усё насельніцтва (тэлеканалы і іншыя). То бок патрэбны свабодныя СМІ. У нас жа на тэлеэкране 25 гадоў адзін і той жа чалавек.

Затым, каб даведацца ступень вядомасці, папулярнасці палітыка, ягоны рэйтынг, у краіне павінна існаваць незалежная сацыялогія. Ва Украіне высновы розных сацыялагічных структур былі блізкія і амаль супалі з вынікамі выбараў.

У Беларусі незалежная сацыялогія фактычна знішчана, НІСЭПД разагналі. Тыя структуры, якія засталіся, не маюць права вымяраць рэйтынгі палітыкаў. Такая сітуацыя выгадная ўладам. Вось Аляксандр Лукашэнка падчас наведвання Баранавічаў казаў, што яго падтрымліваюць 80 працэнтаў людзей, а не падтрымліваюць – 20 працэнтаў. Але не спаслаўся на крыніцы такой інфармацыі. Пагадзіцеся, у такія лічбы цяжка паверыць, але і немагчыма спраўдзіць

Нарэшце, павінны быць свабодныя выбары, падчас якіх папулярнасць таго ці іншага дзеяча ператваралася б у канкрэтную падтрымку, галасы выбаршчыкаў.

Зноў жа, нічога гэтага ў нас няма. Немагчыма з'яўленне моцнага спартсмена ва ўмовах, дзе папросту адсутнічаюць спаборніцтвы. Ніхто нават не даведаецца, што ёсць такі моцны спартсмен.

Паколькі, я лічу, выбары ў Беларусі даўно перасталі быць сродкам народнага волевыяўлення, то яны страцілі цікавасць грамадства. З кожнай кампаніяй на выбарчыя ўчасткі прыходзіць усё менш і менш людзей. Людзі неахвотна падпісваюцца на карысць таго ці іншага кандыдата.

Паводле маіх ацэнак, падчас прэзідэнцкіх выбараў 2015 года 100 тысяч подпісаў без парушэнняў заканадаўства не сабраў ніхто. Нават Аляксандр Лукашэнка. Бо да ягоных пікетаў на вуліцах не вельмі многа людзей падыходзіла. А тое, што ў працоўных калектывах сабралі пашпарты і перапісалі іх дадзеныя, то так можна было сабраць і 5 мільёнаў подпісаў.

Падобна на тое, што сітуацыя ўжо турбуе і ўлады. Тая ж самая Лідзія Ярмошына ў інтэрв'ю агенцтву БЕЛТА 15 студзеня 2018 года заявіла: 100 тысяч подпісаў, якія трэба сабраць кандыдату ў прэзідэнты, зашмат. Старшыня Цэнтрвыбаркама сказала: *"Нам таксама трэба памяншаць колькасць подпісаў, па меншай меры даводзіць хаця б да аднаго працэнта ад колькасці выбаршчыкаў. Дапусцім, калі зыходзіць з колькасці выбаршчыкаў прыкладна ў 7 мільёнаў, неабходная колькасць сабраных подпісаў можа даходзіць да 70 тысяч... Справа ў тым, што на дадзены момант без вялікіх грошай альбо без значнага адміністрацыйнага рэсурсу сабраць подпісы вельмі складана"*.

Нагадаю спадарыні Ярмошынай, што падчас прэзідэнцкіх выбараў 1994 года шэсць кандыдатаў сабралі па 100 тысяч подпісаў, прычым за 20 дзён (!). А цяпер за 30 дзён ніхто сабраць не можа. Чаму так?

Таму, тлумачу, што ў 1994 годзе ў Беларусі былі сапраўдныя выбары, сапраўднае палітычнае жыццё, сапраўдная канкурэнцыя. Людзі адчувалі сябе грамадзянамі, разумелі, што ад іх галасоў нешта залежыць, і станавіліся ў чаргу, каб падпісацца за кандыдатаў. Таму ніякіх праблем з подпісамі не было.

А за апошнія дваццаць пяць гадоў публічная палітыка ў краіне знікла. Разам з выбарамі. Яны сталі нікому не цікавыя. Таму людзі і не хочуць гуляць у гэтую гульню. За што ўлады ўпарта змагаліся, то і атрымалі. Цяпер яны думаюць, як вярнуць хоць якую цікавасць да выбараў, каб хоць якія кандыдаты сабралі патрэбную колькасць подпісаў.

Але, спадарыня Ярмошына, не з таго канца вы заходзіце. Вярніце ў краіну рэальныя выбары, і не трэба будзе змяншаць патрэбную колькасць подпісаў. А яшчэ лепш – выкарыстайце ўвесь той вопыт правядзення выбараў, з якім вам удалося пазнаёміцца ва Украіне.

СИТУАЦИЯ

## Попросили отсрочки

*Беларусь просит Россию на год отсрочить запрет на поставки говядины на кости, сообщили БелаПАН в департаменте ветеринарного и продовольственного надзора Министерства сельского хозяйства и продовольствия Беларуси.*

«Мы такой запрос сделали, но пока нет обратной связи от Российской Федерации», – добавили в ведомстве.

Россельхознадзор ввел временные ограничения на ввоз с 4 апреля говядины на кости и живого крупного рогатого скота из стран, не имеющих официального статуса Международного эпизоотического бюро (МЭБ) по губкообразной энцефалопатии крупного рогатого скота.

«Этого статуса нет ни у России, ни у Украины, ни у нас, ни у многих стран мира. Это очень дорогостоящая процедура и касается только кости», – сказал начальник главного управления внешнеэкономической деятельности Минсельхозпрода Алексей Богданов.

По его словам, Беларусь находится на пути к получению такого статуса. Процедура может быть завершена в течение трех-пяти лет.

Во избежание потерь белорусские предприятия перестроятся на поставки обваленного мяса, а для этого им потребуется время, считает начальник главного управления внешнеэкономической деятельности Минсельхозпрода.

За прошлый год Беларусь поставила в Россию более 140 тысяч тонн замороженной, свежей или охлажденной говядины на 517 млн долларов. Из этих объемов порядка 70% поставлялось на кости, остальное – обваленное мясо.



НЕРУХОМАСЦЬ

## Хто пацягне такі крэдыт?

"Беларусбанк" аднаўляе выдачу крэдытаў на другаснае жыллё. Крэдыты выдаюцца на тэрмін да 20 гадоў па плаваючай схеме: стаўка рэфінансавання плюс 5,4%. На дадзены момант гэта 15,4%.

Кліент не зможа пакрыць крэдытам увесь кошт нерухомасці: прадастаўляюць да 90%. На сайце банка ёсць важная рэмарка: «...У межах плацежаздольнасці крэдытаатрымальніка».

Дарэчы, эксперты, скарыстаўшыся калькулятарам, падлічылі, што для атрымання 90% кошту аднапакаёвай кватэры (узялі адносна танны варыянт за 40 тысяч долараў у эквіваленце) тэрмінам на 20 гадоў трэба мець заробак не менш за 1909 рублёў 49 капеек.

СКАЗАНА!

## Акумулятарны завод пад Брэстам запрацуе ў маі

Пра гэта старшыня Брэсцкага аблвыканкама заявіў на сустрэчы са студэнтамі Палескага дзяржаўнага ўніверсітэта. Тэму будаўніцтва пад Брэстам завода па вытворчасці свінцовых акумулятараў **Анатоль Ліс** агучыў сам.

*– Я неаднаразова выступаў на гэтую тэму і вам сёння скажу, што завод гэты будзе адкрыты ўжо ў маі,* – цытуе Ліса «Медыя-Палессе». – *Гэта сур'ёзны інвестыцыйна-інавацыйны праект, у рэалізацыю якога ўкладзены велізарныя грошы. Ён прайшоў усе экспертызы. У тым ліку экалагічную. Ніхто не дазволіў бы будаўніцтва завода, які ўплываў бы на экалогію горада, тым больш абласнога цэнтра. Сёння ў Польшчы, Германіі такія заводы працуюць. А мы купляем там акумулятары за валюту. Што, мы дурнейшыя за іх, свае не можам зрабіць?*

АКТУАЛЬНАЯ ТЕМА

# «Что вы хотите от доктора, который 25-й час находится на работе?»

*Как уменьшить поток жалоб на медицинскую помощь и достигнуть доверия между врачами и пациентами? Ответ на этот вопрос искали врачи и юристы за «круглым столом».*



### Необоснованно жалуешься – плати!

Написать жалобу на доктора или позвонить и высказать свои претензии на «Горячую линию» Минздрава стало в Беларуси обычным делом. Число недовольных пациентов в стране если не растет, то точно не уменьшается. Минздрав приводит такую статистику: в прошлом году только на работу поликлиник письменно пожаловались более 800 белорусов, несколько меньше было недовольных лечением в стационарах. Всего число обращений в медицинское ведомство доходит до 8–10 тысяч в год. Из них треть – это все же благодарности врачам за оказанную помощь.

**Александр Ходжаев,** *главный специалист Управления организации медицинской помощи Министерства здравоохранения*:

– На каждую жалобу, что бы в ней ни было написано, готовится ответ. Основным критерием в части оценки качества оказания медпомощи является соответствие лечения протоколу. *Если он не выполнен, значит, можно говорить, что жалоба обоснованна. Все другие вопросы, которые касаются этики и деонтологии, очень сложные. Иногда пациенты предоставляют диктофонные записи, но комиссия, которая рассматривает жалобу, не уполномочена удовлетворять эту запись, она не знает, являются ли те люди, которые там говорят, теми, кем они обозначены.*

**Екатерина Орловская**, *юрист*:

– Мне кажется, что рассматривать жалобы надо не по количеству, а по качеству. Потому что есть жалобы обоснованные, которые действительно требуют вмешательства вышестоящих организаций, подключения экспертов, медиаторов, общественных организаций. И есть огромное количество жалоб необоснованных: мол, доктор на меня не так посмотрел, не улыбнулся пять раз. И эти жалобы фиксируются, на них надо отвечать. Но это не влияет на качество оказанной медицинской помощи. И тогда это получается не жалоба, а поклеп. И я давно говорю о том, что на такие жалобы надо ввести плату. На первую вам ответят. Но если человек пишет повторную жалобу и она снова признана необоснованной, пусть заплатит. Например, одну базовую величину. Если пишет третью жалобу – пять базовых величин! Таким образом мы пополним бюджет и уменьшим количество необоснованных жалоб.

**Ольга Светлицкая,** *доцент кафедры реаниматологии и анестезиологии БГМУ, врач-реаниматолог Городской клинической больницы скорой медицинской помощи Минска*:

– Что такое рассмотрение жалобы? Это огромные бюджетные затраты.

Как правило, по жалобе работает региональная комиссия, в состав которой входят специалисты, три-пять человек из разных учреждений региона. Значит, это командировочные расходы (проезд, гостиница), доктора снимают на день-два с работы, его пациенты находятся это время без его участия... Если ответом на жалобу заявитель не удовлетворен, он пишет повторную жалобу и снова собирается комиссия. Например, я как сотрудник кафедры БГМУ выезжаю уже в составе республиканской комиссии, которую формирует Минздрав. Наверное, действительно на каком-то этапе надо останавливать этот поток. Это травмирует врачей.

Но есть, безусловно, оправданные жалобы, и за них бывает стыдно. Мы ни одну такую жалобу не оставляем без внимания и наказываем виновных.

**Виктор Сущевич**, *кандидат медицинских наук, врач-методист Минской областной клинической больницы, медиатор:*

– К сожалению, в нашем обществе велика жажда крови и наказания. Люди не хотят договариваться. Мы забыли 10 заповедей, придумали взамен тысячи инструкций, но это нас не спасает. Общество накаляется, напряженность растет. И здесь могли бы помочь технологии медиации, которые, к сожалению, не преподаются в наших вузах. Причем помочь и врачу, и пациенту… Надо выдавливать из себя маленького Сталина –обязательно наказать человека за то, что он не так сказал или не так поступил. Я знаю пример, когда представитель частного медцентра просил суд вынести решение в пользу пациента, хотя было доказано, что вины клиники не было. Главврач так и говорил в суде: «Вы меня лучше оштрафуйте, мы заплатим, потому что пациент будет жаловаться дальше, если суд примет решение не в его пользу».

### Наладить диалог!

По мнению экспертов, недовольство пациентов чаще всего вызвано не врачебной ошибкой, а отношением врачей к пациентам. Белорусы жалуются на невнимательность медиков, некорректность и т.д. И тут спасительным рецептом может стать сотрудничество.

**Виктор Сущевич:**

– На мой взгляд, конфликты возникают и потому, что врачи не умеют сглаживать ситуацию, не умеют говорить с пациентом. К сожалению, в нашем обществе медицинская помощь ассоциируется с оказанием услуги. Но принцип бытового обслуживания в обычном понимании для медицины не подходит, это совершенно разные вещи. Это не химчистка, где сдал пальто и через неделю получишь его чистым. В медицине существует паритет: врач–пациент. Если пациент не будет помогать врачу, никакой услуги не будет. И наоборот: если врач недостаточно компетентен и недостаточно внимателен, то он не в полном объеме окажет услугу.

**Ольга Светлицкая**:

– На мой взгляд, есть несколько причин появления жалоб. Первая – недопонимание людьми, что ответственность за их здоровье лежит прежде всего на них и зависит от их образа жизни. Но если наше общение начинается с претензии, что врач виноват, это уже усложняет общение.

Второй важный момент касается не только медиков и есть во всех сферах жизни. Почему все ополчились на медицинских работников и ждут, что мы должны улыбнуться?! Если вам не улыбнулись ни в магазине, ни в паспортном столе, ни в метро, вы где только можно получили негатив, то почему, придя в приемный покой стационара, вы ждете, что врач, условно говоря, ноги помоет…

И третий момент – крайняя усталость медработников. Наши врачи работают на полторы-две ставки. У них 12-часовой рабочий день, дежурства. Что вы хотите от доктора, который 25-й час находится на работе?! Чтобы не было эмоционального выгорания, чтобы доктор разделил вашу боль, погладил по руке, дайте ему банально выспаться, провести выходные со своими близкими! Когда он не будет падать от усталости, у него будет желание поговорить с пациентом. Дайте возможность врачу получать те же деньги за одну ставку, а не за полторы и не за две.

**Екатерина Орловская**:

– Наши пациенты очень хорошо знают свои права и умеют ими манипулировать, как говорят в народе, качать свои права, потому что у них есть огромное количество механизмов давления на медицинских работников. А я хотела бы акцентировать внимание на обязанностях пациентов, которые прописаны в законодательстве, которые все знают, но в нужный момент забывают… Я хотела бы сказать, что «благодаря» своеобразной позиции некоторых СМИ в обществе формируется негативное отношение к медицинским работникам. Любая статья о проблеме, которая возникла у пациента, о сложной ситуации, когда еще не доказано, была врачебная ошибка или нет, мгновенно трактуется так: врач виноват. Я всегда внимательно читаю комментарии под такими статьями, и, как правило, во всех ненависть к врачам: всех пересажать надо!

Известнейшее горячее дело о коррупции в медицинских учреждениях привело к тому, что все врачи у нас стали взяточниками.

Нам нужно поднимать престиж профессии врача и не давить на медицинских работников, иначе кто нас будет лечить через пять лет?

**Ольга Светлицкая:**

– Идет отток врачей, причем врачей среднего возраста. Вдумайтесь! Медицина – это не просто окончить вуз. Медицина – это клинический опыт. Надо проработать три-пять лет, чтобы называть себя врачом, а в моей специальности и больше. А уезжает кто? Врачи, которым 40–45 лет. Мы беспокоимся, что уезжают строители – некому будет положить плитку. Уезжают врачи – а это наше здоровье и качество жизни.

Знаете, какая продолжительность жизни врачей? Анестезиологи в России живут в среднем 58 лет, в США – 68.

**Ирина Жихар**, *директор социально-просветительского учреждения «Центр поддержки онкопациентов «Во имя жизни»:*

– На мой взгляд, когда появились антибиотики, это внесло в общую проблему коммуникаций свою лепту. Возникла иллюзия, что лечение лекарством снимает все проблемы и не надо разговаривать с пациентом. А пациент ждет от врача объяснений и рекомендаций, как ему жить дальше с этой болезнью. И это общий вызов для всей медицины, не только для белорусской. Например, в Литве провели исследование, в ходе которого опросили и врачей, и пациентов. И оказалось, что 90 процентов врачей-онкологов сказали, что всё говорят больным об их болезни, а 90 процентов пациентов заявили, что врачи им не сказали ничего. *Пациент в состоянии тяжелого хронического заболевания воспринимает только 25 процентов информации. Мы проводили свое исследование среди онкопациентов Беларуси. Их не удовлетворяет объем информации, нехватка времени у врачей, психологический аспект отношений. Таким образом, проблема обучения врачей понятному языку остается очень актуальной. У врача может не быть времени, сил, но проблему недопонимания надо изучать и решать.*

**Сергей Давидовский,** *доцент кафедры психотерапии и медицинской психологии БелМАПО*:

*– Когда медики осваивают последовательность речевого высказывания в разных ситуациях, этот навык становится реальной помощью медикам и поддержкой пациентам… Надо прийти к тому, что пациент – это участник лечебного процесса. Важно, чтобы было сотрудничество, а не поиски того, кто виноват.*

### Государственная проблема

Эксперты уверены, что решение проблемы жалоб в медицине не замыкается на коммуникации врач–пациент, она гораздо шире. Пока государству не будет дела до врачей – врачам часто не будет дела до больных, тут прямая зависимость.

**Виктор Сущевич:**

– К великому сожалению, у нас законодательно не проработаны взаимоотношения пациент–врач, и поэтому у нас существует презумпция виновности врача. Как только пациента что-то не удовлетворяет, он начинает писать жалобу….

**Ирина Жихар:**

– Мне кажется, что зачастую пациенты пользуются своим правом пожаловаться потому, что у них нет другого способа решить свои проблемы. Они четко знают, что если напишут жалобу, вопрос будет решаться. Люди пишут жалобы от отчаяния: иногда приходится пройти много врачебных кабинетов, а ответов человек не получает. В Дании, например, создали пациентскую ассоциацию, которая помогает в таких ситуациях. У них представитель ассоциации входит в состав комиссии при Министерстве здравоохранения, которая вместе с врачами рассматривает жалобы. А у нас до сих пор так и не создана Ассоциация пациентских организаций.

**Виктор Сущевич:**

– Пациенты должны понимать, что работа врача – одна из самых сложных, врач не имеет права на ошибку, и врач 24 часа находится под уголовной ответственностью. Он назначил лечение, ушел после работы домой, пациент принял препарат, а если с ним что-то случится, кто ответит? Тот, кто назначил.

**Владимир Крылов**, *председатель комиссии по этике Белорусской ассоциации врачей:*

– У медиков Беларуси нет юридической защиты, как у милиционеров, судей, когда можно привлечь за оскорбление лица, находящегося при исполнении служебных обязанностей. Мы инициируем принятие такого закона, потому что фиксируется немало случаев, когда врачей оскорбляют, избивают, нападают на них именно тогда, когда они выполняют свою работу.

**Екатерина Орловская:**

– В Беларуси не хватает общественной организации, которая занималась бы исключительно медицинским правом, защитой как пациентов, так и медицинских работников. Работать в данной структуре должны и врачи, и юристы, поскольку медицина – очень специфическая сфера. Я особенно подчеркиваю необходимость защиты прав медиков, поскольку они в нашей стране защищены не просто слабо, а очень слабо.

Кто должен взять на себя ответственность за создание такой структуры? Точно не медики, потому что им некогда – они должны лечить людей.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

---

СУД ДЫ СПРАВА

## Нескароная Ніна Багінская



Так, і на гэты раз яна выйшла з ізалятара часовага ўтрымання пераможцай. Некалькі дзён трымала галадоўку – і вось зноў на свабодзе.

72-гадовай жанчыне ставіцца ў віну тое, што яна быццам перашкаджала будаўнічым работам у Курапатах, калі там выцягвалі з зямлі крыжы. І яшчэ: непадпарадкаванне міліцыі.

У судзе Н.Багінская заявіла, што Канстытуцыю не парушала, а суд лічыць несправядлівым. Таму і адмовілася даваць паказанні і адказваць на пытанні.

Суд Маскоўскага раёна сталіцы накіраваў міліцэйскі пратакол на дапрацоўку, а Ніну Багінскую вызваліў з-пад арышту.

**Вольга МАЛЬЦАВА.** Фота nn.by.

---

ПРИНЦИПИАЛЬНЫЙ ВОПРОС

## Когда в Минске появится уполномоченный по правам человека?

*Семь лет назад председатель Конституционного суда **Петр Миклашевич** обсуждал этот вопрос с **Александром Лукашенко**.*

*«Граждане могли бы обращаться к уполномоченному по наиболее важным вопросам, затрагивающим конституционные права и свободы граждан, а уполномоченный по правам человека мог бы затем обращаться в Конституционный суд», – цитировал belta.by Миклашевича.*

*За создание поста омбудсмена по правам человека высказывался и экс-глава Конституционного суда **Григорий Василевич**: «Считаю, что его введение будет иметь положительный политический, экономический и социальный эффект. Оптимальным было бы назначение уполномоченного указом президента сроком на пять–семь лет с предварительного согласия Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь».*

*На какой стадии сейчас находится решение этого вопроса?*

*Председатель РОО «Белорусский Хельсинкский комитет» **Олег Гулак** говорит, что представители власти не включают в повестку дня тему об уполномоченном по правам человека.*

– Этот вопрос рассматривался года три назад, обсуждались требования ввести институт уполномоченного по правам человека, но никогда чиновники не говорили, что вот-вот в Беларуси появится омбудсмен, – *сказал Олег Гулак «Народной Воле»*. – Национальный центр законодательства и правовых исследований Республики Беларусь по этому поводу делал какой-то анализ, собирал мнение госорганов. В конце концов чиновники пришли к выводу, что нет необходимости в создании института уполномоченного по правам человека. Кстати, документ об этом не публичен.

Тема окончательно не закрыта, ее периодически обсуждают, это постоянная рекомендация, которая фигурирует во всех международных документах по правам человека в отношении Беларуси. Поэтому, с одной стороны, с повестки дня вопрос не снят, но, с другой, насколько я знаю, серьезно над созданием института омбудсмена со стороны власти никто не работает.

**– Два года назад Александр Лукашенко, встречаясь с представителями деловых кругов, заявил, что лично выполняет роль уполномоченного по проблемам предпринимательства…**

– То же самое он говорил и об уполномоченном по правам человека. С одной стороны, это хорошо, что он так высоко поднимает планку уполномоченного. Но с другой…

У президента слишком много полномочий. По Конституции президент отвечает за все государственные дела: экономику, культуру и так далее. И по всем этим вопросам есть профильные министерства, комитеты, различные государственные структуры. А по правам человека нет ни одного органа, ни одного должностного лица, и поэтому президенту очень трудно одному работать в этом направлении. Ему никто не помогает…

Например, сейчас наш главный партнер по вопросам прав человека – Министерство иностранных дел, которое является куратором всех международных договоров.

Но МИД – лишь посредник между государством и международными структурами. Понятно, что по своей компетенции и по своим задачам МИД просто не может выполнять функцию ответственного за права человека. МИД не может ни разрабатывать политику в этом направлении, ни предметно рассматривать вопросы, делать мониторинги, докладывать парламенту и президенту о том, что происходит в этой сфере. Это всё не его задачи. И у МИД нет на это ни людей, ни материальных ресурсов.

**– Олег, а как вы сегодня в целом оцениваете ситуацию с правами человека в Беларуси?**

– Ниже уровень репрессий, уже не садят на большие сроки так, как садили раньше. Например, пять лет назад Марина Золотова и Геннадий Федынич могли бы угодить за решетку. И если бы они сели, то были бы политзаключенными. Но сейчас отсутствие политзаключенных для власти – принципиальный вопрос.

В разных сферах стало немного больше открытости. Одним словом, процессы идут, но очень медленно. А системные проблемы остались.

**Марина КОКТЫШ.**

ЧТО ВОЛНУЕТ...

# Нам не отписки нужны

*Открытое письмо Президенту Республики Беларусь А.Г.Лукашенко*

Уважаемый Александр Григорьевич!

1 марта 2019 г. во время «Большого разговора с Президентом» Вы публично поручили правительству определить сумму, необходимую для возврата гражданам их сбережений, хранившихся в Сбербанке СССР, сказали, что в ближайшее время эти деньги, возможно, будут найдены и этот вопрос, не исключено, получит отражение в Вашем Послании к народу и парламенту, которое, как уже известно, состоится 19 апреля 2019 года.

В свете Вашего поручения инициативная группа направила в Ваш адрес и в адрес других руководителей госорганов обращения, в которых содержится информация о том, что, несмотря на подписанные в 1992 году соглашения между республиками бывшего СССР, правительство Беларуси не исполнило надлежащим образом обязательства по целевому займу 1990 года, а также высказано мнение о необходимости решения проблемы исполнения государством обязательств по целевому займу 1990 года и индексации вкладов населения Беларуси по двум разным направлениям.

Нам известно, что обращения, направленные Вам и премьер-министру, были транзитом переправлены в Министерство финансов и ОАО «АСБ «Беларусбанк».

Министерство финансов сообщило нам, что информацией по затрагиваемому в обращениях вопросу оно не располагает.

Руководство ОАО «АСБ «Беларусбанк» в своем ответе от 19 марта 2019 г. сообщило: «При принятии на государственном уровне решения об осуществлении компенсации (индексации) данное решение будет исполнено Банком в установленном законодательством порядке».

В ответе Национального банка от 20 марта 2019 г. сказано, что вопросы принятия государством на себя обязательств по возмещению населению потерь от обесценения сбережений (в том числе размещенных в облигации государственных целевых беспроцентных займов), определения размера и источников компенсационных выплат «решаются только на уровне Президента и правительства и не входят в компетенцию Нацбанка».

Во время недавнего телефонного разговора с ответственными лицами Министерства финансов и с ОАО «АСБ «Беларусбанк» выяснилось, что до сих пор никакого поручения по подсчету суммы, необходимой для возмещения инфляционных потерь по вкладам и уточнению сведений по облигациям целевого займа 1990 года, указанные органы не получали и ничего не подсчитывают.

Александр Григорьевич, скажите, пожалуйста, а кто же тогда занимается выполнением Вашего поручения и будет ли оно выполнено?

Надеемся, что в ближайшие дни правительство все же положит Вам на стол сведения о сумме, необходимой для возврата гражданам их сбережений, и в Вашем Послании к народу и парламенту мы услышим обнадеживающие слова. Во всех своих письмах, в том числе и на Ваше имя, мы подсказывали, каким образом государство может изыскать средства для расчета с народом.

**Александр САМОДУРОВ,**
**председатель инициативной группы владельцев облигаций государственного целевого беспроцентного займа 1990 года.**

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА




Коллаж Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.

# Угнал такси…

Недавно в Минске за угон автомобиля задержали 25-летнего парня.

Речь идет не о банальном преступлении. Своего авто лишился таксист, который зашел перед поездкой в бар, не достав ключи из замка зажигания. Этой оплошностью воспользовался парень, отдыхающий в том же баре. Выйдя из увеселительного заведения, он увидел припаркованную машину с ключом в замке, но без водителя.

Позже минчанин объяснял милиционерам, что он ждал таксиста, однако терпения не хватило. Сел за руль авто и уехал. А вышедший из бара таксист, не понимая, что произошло, набрал «102».

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Хоць немінуча будзе кара, затое здзейснілася мара

У Бабруйску раней судзімы дзяцюк, будучы пад чаркаю, здзейсніў угон катафалка. Супрацоўнікам ДАІ, якія яго затрымалі, дзяцюк патлумачыў: «Проста хацеў пакатацца».

Хто пра «Таёту» марыць змалку,
Камусьці трактар па душы…
А вось Іван на катафалку
Прамчацца марыў па шашы.
Чаму ў яго такія мары,
Хлапчук і сам не знаў, бадай.
Не трэба «Вольва» ці «Ферары»,
А катафалк яму падай!
Іван дарослы. Ён мужчына.
І нават трапіў у турму.
Ды толькі гэтая машына
Начамі снілася яму.
Марудзіць болей немагчыма.
Калі з турмы вярнуўся ён,
Дык з аўтапарка першым чынам
Украў жалобны той фургон.
Хаця на грудзі ўзяў нямала,
Набок валіўся, быццам куль,
Такая радасць абуяла,
Калі садзіўся ён за руль!
Да раніцы на катафалку
Насіўся б ён, як метэор,
Калі б сваю ў палоску палку
Не скарыстаў з ДАІ маёр.
Прыняўшы хмару перагару,
Службовец стрымліваўся ледзь.
– Пра катафалк з маленства мару,
Табе мяне не зразумець… –
Іван тлумачыў выбар дзіўны. –
Хоць, пэўна, сяду ні за грош,
Ды гэта быў мой шанц адзіны,
Каб мара здзейснілася ўсё ж…

* * *

Івану радавацца трэба,
Бо мае шанец неблагі
Машынай той па волі Неба
Пакарыстацца й раз другі:
Як пройдзе тэрмін некаторы,
Паедзе зноўку,
Балазе
Той катафалк у крэматорый
Або да ямы павязе…

## Як куры здолелі адбіцца, калі наскочыла Лісіца

*Байка*

На ферме ў правінцыі Брэтань (Францыя) ліса забралася ў хлеў, дзе знаходзілася 3 тысячы курэй. Птушкі загналі лісу ў кут і задзяўблі да смерці.

Праз дзірку нейкую ў сцяне
У хлеў забралася Лісіца.
«Нарэшце, – цешылася, – мне
Як след удасца пажывіцца!
Курэй было навокал – цьма,
Вячэра бачылася пэўна:
Гаспадара ў хляве няма,
Няма паблізу нават Пеўня!
Перш чым наладзіць пір гарой,
Сказала здзеклівыя словы:
– Ну што,квактухі, стаць у строй,
Я па чарзе скручу галовы!
Зляпіліся каля сцяны
І пазіралі моўчкі куры.
Чакалі гібелі яны,
І быў настрой зусім пануры.
Няма сумнення: па адной
Ліса падушыць немінуча,
І застанецца пад сцяной
Пашаткаваных тушак куча.
Зусім не вабіў гэткі лёс
Жыццялюбівую Квактуху:
З Лісой падужацца ўсур'ёз,
Перш чым сканаць, хапіла духу.
Хоць з нехлямяжага крыла
Яна ўзляцела невысока,
Але наблізіцца змагла
І дзюбнула Лісіцы ў вока!
Калі апёк пякельны боль,
Зайшлася рыжая ад крыку.
Нахабства ж курыцы тым больш
Лісіцу збіла з панталыку.
У кут забіўшыся, яна
Рабіла кругавыя рухі.
І акрыялі як адна
Усе астатнія квактухі!
Ім не жахліваю такой
Здалася хіжая Лісіца,
І ўдасца, можа, талакой
Абараніцца і адбіцца.
Суцэльнай хмарай чарада
На душагубку наляцела.
І для Лісы зусім бяда:
Квактухі, абляпіўшы цела,
Нібыта вострыя цвікі,
Бязлітасна ўтыкалі дзюбы.
Не дзіва, што напор такі
Драпежніцу давёў да згубы –
З яе, як кажуць, выйшаў дух,
Хаця вакол ляжала пер'е
І белым снегам лётаў пух…

* * *

Дык рысу падвяду цяпер я:
Калі з'яднацца ў барацьбе
Супроць тырана, дыктатуры,
Калі ісці ў адной гурбе,
Дык перамогуць нават куры…

ТАК ДУМАЮ!

# Мне было шкада ўсіх…

За 25 гадоў нашай «барацьбы» з карупцыяй яе ўзровень узрос у шмат разоў.

А можа, трэба было не змагацца, а проста сумленна выконваць свае абавязкі? Кумаўство і прынцып лаяльнасці пры прызначэнні кіруючых кадраў прывялі да таго, што многія таленавітыя кіраўнікі былі па розных прычынах адхілены ад сваіх пасад. Дэградацыя кіруючых кадраў прывяла да застою амаль ва ўсіх сферах дзейнасці. У нас сотні ідэолагаў, а ідэалогіі няма. Наша супрацоўніцтва з Венесуэлай і іншымі краінамі-ізгоямі прыносіць краіне адны страты.

Калі я глядзеў навіны пра паездку прэзідэнта ў Шклоўскі раён, мне было шкада ўсіх: і Лукашэнку, які душою перажывае за усё, і кароў, і чыноўнікаў. А можа, нам пара спыніцца і чэсна сказаць, што шлях, па якім мы ідзём, вядзе ў нікуды?

**Васіль КУРПАЦІН.**

*Магілёў.*

ХОЧУ СКАЗАТЬ...

# Может, не стоит нашей стране сильно тратиться на подготовку к Олимпийским играм? Здоровье миллионов граждан важнее

Ни для кого не является секретом, что Олимпийские игры все более и более превращаются в политические мероприятия. Все труднее сражаться с допингом, как и с тем, что программы их смещаются в финансовую сторону.

Хотя, я считаю, нужно активнее пропагандировать спорт, особенно массовый. Занятие им – это то, что надо человеку. Старты в коллективных соревнованиях бегунов, лыжников, велосипедистов, роликобежцев и так далее проходят на эмоциональном подъеме, когда усталость отступает. Может, не следует нашей стране сильно тратиться на подготовку к Олимпийским играм? Здоровье миллионов граждан важнее.

Лично я это прочувствовал в феврале нынешнего года, выступая в массовом забеге конькобежцев на дистанции 10 километров по льду озера Нарочь. Думаю, специалисты, приглашенные из Голландии и Франции для экспертизы условий для стартов, остались довольны, и на следующий год возможно участие любителей массовых забегов из Европы.

Размеченный круг в два с половиной километра преодолевали четыре раза. Организованы соревнования были на высоком уровне. Хотя над качеством льда надо еще поработать – убрать неровности, залить трещины, сделать трассу зигзагообразной, такая психологически легче переносится, чем бег по прямой. Считаю, что в будущем надо удлинить пробеги до марафонской дистанции – 42 километра, а для этого круга в 2,5 километра маловато.

Есть надежда, что в забегах конькобежцев-любителей по льду озера Нарочь следующей зимой примут участие представители многих стран. Нужно только заранее сделать хорошую рекламу. Правда, есть одна проблема, над решением которой организаторам соревнования следует подумать уже теперь. Прочность льда, скажем, в феврале не вызывает сомнений, но возникают трудности с уборкой снега. Тяжелую технику на озеро не пустишь, а нужной легковесной у нас не хватает.

Работая на ПО «Горизонт», я трижды выезжал в командировки в Голландию на фирму Philips. В кулуарах речь заходила о конькобежных сверхмарафонах по каналам Голландии. К сожалению, климат в Европе стал таким, что каналы далеко не каждую зиму замерзают. Тем не менее ветераны-конькобежцы усердно тренируются на искусственном льду 16 спортивных арен, имеющихся в стране. Для массовых стартов находят замерзшие водоемы в горах.

Как видите, и в высокоразвитых странах любительскому спорту уделяется не меньше, а может, даже больше внимания, чем профессиональному. Вот почему нам нужно всячески поддерживать организаторов соревнований на льду озера Нарочь. Подобные старты конькобежцев могут быть и на водохранилищах вблизи Минска. Лучше всего приурочивать их к выходным, праздничным дням, когда к нам приезжает много туристов. Зимой некоторые спортивные объекты у нас бездействуют, почему бы их не предоставить в распоряжение тех, кто хочет встать на те же коньки и получить массу удовольствий.

**Геннадий КОСОБУКО,**
**экс-чемпион БССР, мастер спорта, судья республиканской категории.**

РУБАМ!

# Няхай вернуць грошы ў казну тыя, хто яе абрабаваў

Наш дом падключылі да кабельнага тэлебачання. Я пацікавіўся: а колькі каналаў будуць трансліраваць перадачы на беларускай мове? З шасцідзесяці (!) – ніводны. Дык навошта мне пускаць у кватэру чужынцаў?

Яшчэ вось пра што хачу сказаць. Падчас «Вялікай размовы з Прэзідэнтам» было ўзнята пытанне наконт вяртання людзям грошай, якія ў дзевяностыя гады «згарэлі» на ашчадных кніжках і ў рэчавых аблігацыях. Калі і на гэты раз мы пачуем, што бюджэт дзяржавы не дазваляе вырашыць праблему, то я раю ўладам паступіць наступным чынам: прыміце прынцыповае рашэнне, каб у казну вярнулі грошы тыя, хто ў так званыя перабудовачныя часы фактычна яе абрабаваў. Я ведаю нямала асоб, якія, будучы набліжанымі да ўладных структур, банкаў, хапнулі крэдытаў на многія мільёны рублёў. Менавіта за іх пабудавалі шыкоўныя катэджы, набылі дарагія іншамаркі. А пасля розных інфляцый-дэнамінацый як быццам разлічыліся некалькімі месячнымі зарплатамі. Калі крэдыты, якія яны, лічы, па блаце тады атрымалі, складалі 50–80 тысяч долараў, то няхай цяпер вяртаюць суму значна большую – з улікам інфляцыі і тэрміну карыстання дзяржаўнымі (народнымі) грашыма. І гэта дазволіць уладам разлічыцца з той часткай насельніцтва, якая згубіла ўсе свае зберажэнні.

**Міхась ДУДКО.**

*Маладзечанскі раён.*

РЭПЛІКА

# Курапаты без палітыкі?




Гаварыць пра Курапаты «без усякай палітыкі» прапануе прэс-сакратар прэзідэнта Наталля Эйсмант. Дзіўная рэч! Можа, спадарыня Эйсмант умее гаварыць пра кнігі «без усякай там літаратуры»? Ці пра царкву «без усякай рэлігіі»? Або пра калгасы «без усякай сельскай гаспадаркі»?

Курапаты без палітыкі? Гэта значыць, гаворачы пра Курапаты, не ўпамінаць пра Ульянава, Джугашвілі, Дзяржынскага ды іншых крывапіўцаў, якія стварылі сістэму ГУЛАГу і процьму тых самых Курапатаў, дзе згінулі мільёны «ворагаў народа»?

Якімі б фіранкамі ні завешвалі падзеі 30-х гадоў мінулага стагоддзя, кроў праступае праз іх.

**Міхась БУЛАВАЦКІ.**

*Магілёў.*

РЕЗОНАНС

# Возьмите меня в идеологи

Прочитал в газете статью А.Левковича «О национальной идее и белорусской государственной идеологии» и с удивлением узнал, что для белорусского государства характерна французская модель «гражданского национализма». Видимо, автор не знает, что в нашем обществе слово «национализм» зачастую трактуется чиновниками как идеология сродни фашизму.

В публикации Левковича выдержана традиция пинать оппозицию и петь дифирамбы власти. Вот только А.Левкович не знает и не хочет знать такой факт новейшей истории: было время, когда президент А.Лукашенко мечтал о Кремле. Об этом не хотят вспоминать кандидаты наук, теперешние и бывшие депутаты, оппозиция. Только нетитулованный историк С.Борис в «Народной Воле» напомнил об этом амбициозном плане. Тогда и появилось Союзное государство, а сейчас, напоминая об этом договоре, московские чиновники фактически ведут разговор о присоединении Беларуси к России. Недаром известный российский актер в стихотворном опусе говорил: сегодня Крым, теперь на очереди Минск.

О какой национальной идее и белорусской государственной идеологии можно говорить? Ведь извращена белорусская история, на грани уничтожения культура, язык.

Хотя на самом деле, как я вижу, существует белорусская государственная идеология – удержать народ в советском стойле. Под стать и национальная идея: построение в Беларуси исторической общности – советского народа.

Название статьи А.Левковича громкое, хотя ее более уместно было назвать «Возьмите меня в идеологи».

**Алексей ЧМЫХ.**

*г.Бобруйск.*

ФАКТ

# Чаще всего белорусы умирают из-за болезней сердца и сосудов



Нацстат опубликовал ежегодный сборник «Естественное движение населения по Республике Беларусь за 2018 год». Есть в справочнике данные по основным причинам смертности в Беларуси.

Картина за последние годы остается неизменной. В тройке главных причин смертности белорусов по-прежнему остаются болезни системы кровообращения, онкология и внешние причины. К последним относятся ДТП, пожары, утопления, самоубийства, отравления алкоголем и т.д..

К слову, всего в 2018 году от внешних причин умерло более 8 тысяч белорусов. Из них:

**от суицидов** – 1806,
**от отравления алкоголем** – 1476,
**в ДТП** – 759,
**на пожарах** – 570,
**от случайных утоплений** – 449.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

**Коэффициенты смертности по основным классам причин смерти по областям и г.Минску в 2018 году (число умерших на 100.000 человек населения**

| | Коэффициенты смертности по причинам смерти | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Умерло от всех причин | Из них от | | | | | | |
| | | Некоторых инфекционных и паразитарных болезней | Болезней нервной системы | Новообразований | Болезней системы кровообращения | Болезней органов дыхания | Болезней органов пищеварения | Внешних причин |
| Все население | | | | | | | | |
| Республика Беларусь | 1265,9 | 7,3 | 70,2 | 198,7 | 718,0 | 23,5 | 38,9 | 84,5 |
| Области и г.Минск | | | | | | | | |
| Брестская | 1265,7 | 5,1 | 71,1 | 180,6 | 722,1 | 19,2 | 32,3 | 80,4 |
| Витебская | 1457,0 | 5,2 | 187,3 | 223,8 | 700,9 | 42,2 | 36,9 | 100,4 |
| Гомельская | 1313,5 | 15,3 | 16,1 | 218,9 | 774,4 | 18,6 | 42,8 | 86,8 |
| Гродненская | 1395,4 | 6,0 | 90,4 | 179,2 | 804,0 | 29,6 | 43,4 | 88,9 |
| г.Минск | 886,2 | 4,1 | 19,0 | 176,2 | 553,5 | 8,2 | 35,1 | 53,6 |
| Минская | 1403,8 | 8,6 | 65,8 | 208,7 | 784,0 | 32,2 | 46,0 | 95,1 |
| Могилевская | 1390,2 | 7,3 | 93,3 | 215,6 | 792,0 | 25,6 | 38,0 | 108,3 |

ЖАХ!

## Праз падпаленую траву згарэла шэсць дамоў

Здарэнне адбылося ў вёсцы Понарка ў Гродзенскай вобласці.

Невядомая асоба падпаліла старую траву побач з дамамі. Праз гэта ў вёсцы згарэла шэсць дамоў і 11 хлявоў, дзве гаспадарчыя пабудовы пашкоджаны, пацярпелых няма. Гродзенскае абласное ўпраўленне МНС паведаміла, што гарэлі нежылыя хаты.

Як мяркуюць, прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём невыяўленай асобы. Адзінага 44-гадовага жыхара вёскі Понарка выклікалі для тлумачэнняў у РАУС.

НУ І НУ!

## На Астравеччыне знайшлі патроны часоў Вялікай Айчыннай вайны

Жыхар Смаргоні займаўся раскопкамі ў вёсцы Відзюны Астравецкага раёна і знайшоў 440 патронаў калібру 7,62. Аб гэтым паведаміла УУС Гродзенскага аблвыканкама.

Адмыслоўцы папярэдне канстатавалі, што патроны адносяцца да часоў Вялікай Айчыннай вайны.

Па факце знаходкі боепрыпасаў праводзяцца праверачныя мерапрыемствы. Міліцыя таксама высвятляе, што мужчына шукаў з дапамогай металашукальніка.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ІНІЦЫЯТЫВА

# Ліквідаваць ямы!

*У Брэсце арганізацыя «За свой горад» запускае марафон у сацыяльных медыя.*

«Наша мэта – дапамагчы органам улады ўбачыць праблемы ў сваім горадзе і павысіць якасць жыцця гараджан. Мы просім жыхароў Брэста сфатаграфаваць пашкоджанні дарожнага пакрыцця, коратка апісаць праблему, паказаўшы яе месцазнаходжанне. Затым апублікаваць у сацыяльных сетках пост з фота і хэштэгам *#ямыбрэста*. Кожныя 3 дні мы будзем праводзіць маніторынг сацыяльных медыя і ад імя арганізацыі «За свой горад» накіруем у ДАІ і іншыя службы звароты для вырашэння праблем», – расказвае пра ініцыятыву **Ігар Маслоўскі**.




Ямы па вул.Гвардзейскай насупраць супермаркета «Еўраопт».

ТАМ, ЗА БУГОМ

# В Польше бастуют учителя

*Такой массовой акции в стране не было уже 30 лет. В ней участвуют педагоги около 80% школ и большей части детских садов.*

Учителя требуют повышения зарплат на 30% в два этапа. А также выдачи по тысяче злотых в месяц молодым специалистам, улучшения условий труда и фиксирования других доплат. Забастовку поддержали ведущие профсоюзы Польши – ZNP, FZZ и «Солидарность».

К слову, средняя зарплата школьного учителя в Польше составляет 3380 злотых. Это 1848 белорусских рублей, или около 870 долларов. Для сравнения: средняя зарплата учителя в Беларуси – 907 рублей, или 424 доллара. Это более чем в 2 раза меньше, чем у польских коллег. Причем 907 рублей учителя в Беларуси получили в декабре прошлого года – это последние официальные данные, которые приводит профсоюз работников образования и науки. Как известно, в декабре в Беларуси традиционно самые высокие зарплаты в году.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

АСОБА

## Дзяніс ДАШКЕВІЧ:

# «Я і цяпер магу сказануць чыноўнікам рэзкае слоўца»

*Роўна два гады таму ў Цэнтр культуры аграгарадка Побалава прыехаў новы дырэктар. І не хто-небудзь, а «галоўны апазіцыянер Рагачова» Дзяніс Дашкевіч. Праўда, усяго праз некалькі месяцаў мясцовыя сталі называць яго не інакш як «Прэзідэнт».*

*Цяпер і не верыцца, што цэлых дзесяць гадоў Дзяніс не мог уладкавацца на працу. «З такімі поглядамі вам тут няма чаго рабіць», – казалі ў вочы Дашкевічу і адмаўлялі ў пасадзе. А на хвалі сумна вядомага Дэкрэта №3 хлопца і ўвогуле запісалі ў дармаеды. Заставалася адно: пайсці на сустрэчу з Адміністрацыяй прэзідэнта. Літаральна праз некалькі дзён Дзянісу патэлефанавалі: «Для вас ёсць прапанова. Будзеце дырэктарам».*

*Год таму «Народная Воля» пісала, як пачуваецца на сваёй пасадзе самы малады кіраўнік у Рагачоўскім раёне. Але нам па-ранейшаму цікава, што новага ў маленькім Побалаве і як справы ў дырэктара, на працоўным стале якога стаіць бел-чырвона-белы сцяг.*



«1 сакавіка мне падпісалі кантракт аж на два гады», – *смяецца Дзяніс.*

– У раёне мы першыя. У нас самы высокі план, і ўсё роўна мы яго перавыконваем. Але гэта ладна. Цяпер я ведаю, як павысіць нашы даходы ў дзесяць разоў! – *захоплена расказвае пра свой новы бізнес-праект Дашкевіч.* – Я падумаў: а чаму гэта мы ладзім толькі канцэрты і дыскатэкі? Трэба пашыраць сферу паслуг! Тыя ж святы «пад ключ»: аздабленне, фота, відэа, жывая музыка, вядзенне – мы ўсё можам!

**– А такая прапанова знойдзе попыт?**

– Знойдзе. І нашы рэальныя даходы вырастуць у разы! І яшчэ: чаму б не зрабіць у клубе платныя камп'ютарныя курсы? У раёне поўна людзей, якія не ведаюць, як ноўтбук уключаецца! А ў Побалаве ёсць каму навучыць.

**– Нешта вы ў сучасныя тэхналогіі кінуліся, Дзяніс…**

– Бо трэба не сварыцца на моладзь, што яна сядзіць у інтэрнэце, а карыстацца з гэтага! Глядзіце, мы прыдумалі ўнікальны праект – «Рагачоў культурны». Зробім такі інтэрнэт-сэрвіс, дзе будзе ўсё пра культурнае жыццё Рагачоўскага раёна. Больш за тое, ідзе ў нас, скажам, канцэрт, а на сайце або ў мабільным дадатку – яго прамая трансляцыя. Ну класна ж! Аднойчы мы зрабілі такі эфір з просценькіх мабільных тэлефонаў, так у нас на лініі сядзелі дзве з паловай тысячы чалавек! А дай добрае абсталяванне, афіцыйную падтрымку – дык і рэкламадаўцы прыйдуць.

*Дашкевіч палічыў: на ўсё пра ўсё яму трэба тысяч 20 рублёў, не больш. Бо галоўнае, як ён кажа, не круцізна, а ідэя. Зрабіць у Побалаве не проста клуб, а «Цэнтр культуры, вольнага часу і IT». Цяпер галоўнае – гэта згода мясцовых чыноўнікаў і фінансавая падтрымка.*

– У выканкаме мяне быццам бы зразумелі. Я прынёс на пасяджэнне бізнес-план, усё распісаў літаральна па кроках. Паглядзім, што з гэтага атрымаецца, – *спадзяецца на лепшае Дзяніс.*




### Клубнае жыццё

*А яшчэ год таму Дашкевіч загадкава намякаў: маўляў, пайду працаваць у музычную школу. Але цяпер адораны баяніст і, на хвілiначку, стыпендыят Прэзідэнцкага фонду па падтрымцы таленавітай моладзі толькі ўсміхаецца:* «Ды не маё гэта. З дзецьмі працаваць, вядома, цікава. Але клубнае жыццё мне больш падабаецца».

*А гэта значыць, што на працы Дашкевіч з ранку да ночы.* «Гэта ўжо мой трэці тыдзень без выхадных. Ай, я інакш не магу!» – *уздыхае Дзяніс.*

– Ну буду я сядзець гэтыя восем гадзін, і што? У мяне каманда працуе на вынік. А калі рабіць усё, як трэба, – дадому толькі начаваць. Але жонка мяне разумее, падтрымлівае.

**– Дзяніс, год таму вы марылі пра рамонт у клубе...**

– Усё – грошы. Таму што аптымізацыя ў краіне толькі на паперы. Вось у нашым раёне некаторыя Дамы культуры працуюць пусці-паваллюся, а фінансавую падтрымку атрымліваюць. Але, калі зацвердзяць мой праект, грошы заробім. Галоўнае, каб нам іх потым вярнулі. Мы тады і будынак да ладу давядзём, і тэхніку купім. Цукерка будзе, а не клуб!

*Да мэты Дашкевіч ідзе з маленькай, але вернай камандай – усяго шэсць чалавек. Але людзі маладыя, захопленыя.*

– Калектыў у мяне новы, старых работнікаў я звольніў. Вядома, няпроста ўсё гэта. Вось вам і балючы бок рэформ. Але ж хтосьці мусіць браць на сябе адказнасць.

**– У пошуках новага старое б не разгубіць. А, Дзяніс?**

– У нас па-ранейшаму дзейнічаюць гурткі па вакале, графічным дызайне, гукарэжысуры. Можна нават навучыцца рабіць рэміксы! Моладзь гэта любіць, у клубе заўсёды хтосьці ёсць. Так што працуем. Мяне тут нават запрашалі ў іншыя структуры, грошы нядрэнныя абяцалі. Але што грошы. Галоўнае – ідэя!

**– А які, дарэчы, заробак у 32-гадовага дырэктара Цэнтра культуры? «Па пяцьсот» атрымліваецца?**

– А як жа! Толькі ў рублях. З прэміяй бывае і 700. Але гэта рэдка. У астатніх і таго меней, рублёў 400. Хаця для Побалава гэта грошы. Сярэдні заробак тут 300 рублёў. У Рагачове, дарэчы, такое ж становішча.

**– Ну вось і скажуць вам некаторыя: якая тут культура! Пра эканоміку давайце дбаць.**

– Давайце! Але з панядзелка па пятніцу. А ў суботу чалавеку трэба адпачыць. Можна, вядома, узяць дзесяць літраў піва і глядзець па тэлевізары расійскую прапаганду, а можна і да нас з сям'ёй прыйсці.

### Пытанне прэзідэнту

**– Дзяніс, ледзь больш за месяц таму адбылася Вялікая размова прэзідэнта з прадстаўнікамі грамадства і СМІ. Цікава, а пра што вы запыталіся б у Лукашэнкі?**





– Мне цікава: калі мы нарэшце будзем будаваць лічбавую дзяржаву не толькі ў сталіцы, але і на сяле? Прэзідэнт падпісаў дэкрэт аб развіцці лічбавай эканомікі, а калі я сваім прапанаваў перайсці на частковы разлік у электронных грашах, прыцягваць замежных рэкламадаўцаў і атрымліваць з гэтага ў тым ліку і віртуальны даход, на мяне паглядзелі як на іншапланецяніна. Скажам, зараз мы стварылі сацыяльную сетку з уласнай крыптавалютай, моладзь вельмі актыўна далучаецца да праекта. Але купіць нам парачку просценькіх ноўтбукаў – гэта для раёна невырашальная праблема! А ўсё таму, што IT-індустрыяй займаюцца даяркі, а праграмісты ходзяць на суботнік платы фарбаваць.

**– Ліха вы…**

– Ды вы не ўяўляеце, на якія неадэкватныя бюракратычныя бар'еры могуць натыкнуцца нават самыя бяскрыўдныя ініцыятывы. Тое, што можна вырашыць за некалькі хвілін, месяцамі абмяркоўваецца! Камісіі цэлыя збіраюцца. Ды не цягайце вы мяне па кожнай дробязі ў гэты аддзел ідэалогіі, дайце кіраўніку на сяле хоць трошкі ўлады. Або працуйце хутка: прыдумалі, абмеркавалі – і ўсё, наперад!

**– І праўда – так проста… Дык чаму тады не атрымліваецца?**

– Бо ёсць у плане дзесяць канцэртаў – дык і зробім дзесяць. Абы ціха было! А як павышаць эфектыўнасць, кіраўнікі не ведаюць, ім нецікава. План выконваецца, іх не чапаюць – і добра.

**– Дзяніс, два гады таму вы прызналіся, што напачатку вам было вельмі цікава, як працуе дзяржсістэма. Паглядзець на яе, што называецца, з сярэдзіны. Бачу, што гэтых ведаў цяпер у вас дастаткова. А вось нейкі жыццёвы, чалавечы досвед назапасіўся за «дырэктарскі» тэрмін?**

– Цяпер я разумею: тое, што зрабіў за два гады, можна было паспець і за адзін. Магчыма, не хапіла нейкай упэўненасці, а дзесьці нават і жорсткасці. Ды і з мясцовымі ўладамі былі не самыя лепшыя адносіны. Хаця я і цяпер магу сказануць чыноўнікам рэзкае слоўца. Але ж вось падтрымлівалі мяне пакуль, чаго тут скардзіцца. Ды і я не заклікаю на плошчу. Проста хачу, каб усё ў нас было нейкім жывейшым, спраўнейшым. Давайце будзем мяняцца!

**Аліна СТРАШКЕВІЧ.**

ЧУЛІ?

## Вольгу Мікалайчык аштрафавалі амаль на 900 рублёў

Грамадзянскую актывістку Вольгу Мікалайчык затрымалі 5 красавіка каля 20-й гадзіны. Яна пасля вячэрняй малітвы засталася ў Курапатах, каб пасадзіць кветкі. Па дарозе дадому на выхадзе з падземнага пераходу яе закінулі ў мікрааўтобус, забралі тэлефон.

У панядзелак 8 красавіка яе прывезлі ў Першамайскі суд Мінска за «заклік на несанкцыянаванае мерапрыемства ў сацыяльных сетках». Вольга настойвала, што гэта быў не заклік на мерапрыемства, а інфармаванне пра малебен за Курапаты.

Прысуд – 35 базавых велічынь (892,5 рубля).

(Радыё Свабода.)

СУД

## За гібель хлопчыка – 3 гады пасялення

Учора ў судзе Кастрычніцкага раёна Магілёва быў агучаны прысуд па справе гібелі выхаванца цэнтра алімпійскага рэзерву па веславанні ў чэрвені мінулага года.

Вінаватай была прызнана 25-гадовая трэнер цэнтра спорту Ірына К., яна асуджана на 3 гады калоніі-пасялення за службовую нядбайнасць, якая прывяла да смерці чалавека праз неасцярожнасць.

КРЫМІНАЛ

## Нічым не пагрэбаваў…

50-гадовы мінчанін скраў 150 рублёў і жэтон на метро ў бытавым памяшканні, дзе знаходзіліся курткі рабочых. У адной з іх быў кашалёк з грашыма.

Як паведамляе ГУУС Мінгарвыканкама, жэтон і частку грошай мужчына выкарыстаў у той жа дзень. Зараз ён затрыманы.

**Віктар ШПАК.**

## Давыкладаліся…

У Пінску пад крымінальныя справы трапіў шэраг выкладчыкаў дзяржаўнага аграрна-тэхналагічнага каледжа, паведамляе прэс-служба УУС Брэсцкага аблвыканкама.

Паводле звестак апаратыўнікаў, выкладчыкі атрымлівалі ад студэнтаў хабар за здачу іспытаў і кантрольных. БЕЛТА ўдакладняе, што ў хабары падазраюць дзесяць выкладчыкаў. На іх завялі 15 крымінальных спраў.

Некаторым з выкладчыкаў ужо выставілі абвінавачанні, а іх справы накіраваны ў суд горада Пінска і Пінскага раёна.

ЦЫТАТА



Уладзімір ЖЫРЫНОЎСКІ,
старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі, дэпутат Дзярждумы Расіі:

– Да прэзідэнта Беларусі Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі я прыязджаў некалькі разоў, нашы дэпутаты да яго ўвесь час ездзяць. Будзем спадзявацца, што 30-я гадавіна (*Дамовы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы 1999 года. – Рэд.*) будзе святкавацца ў другім фармаце, як **адзіная дзяржава**. Гэта ўсім выгадна, Еўрасаюз паказаў перавагі…

**(«Союзное вече».)**

КАМЕНТАРЫЙ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

# Не дачакаецеся, пан імперыяліст!

Што тут каментаваць? У Жырыноўскага сталы імідж імперскага рупара. Помніце яго фразу пра тое, што рускі салдат яшчэ будзе мыць боты ў Індыйскім акіяне? Апошнія гады Жырыноўскі адзначыўся скандальнымі, агрэсіўнымі выказваннямі адносна Украіны. Летась жа ён адкрытым тэкстам заявіў на тэлеканале «Расія 1», што «*нараджаецца новая Расійская імперыя. І роды ідуць і ў Сірыі, і ва Украіне, і ў Лондане, па ўсім свеце, усюды*».

У свой час гэты дзеяч наўпрост заклікаў былыя савецкія рэспублікі ўваходзіць у склад Расіі. Аднойчы выказаўся без эківакаў: «*Беларусь мусіць стаць восьмай федэральнай акругай Расіі, назавём яе Мінскай*». Карацей, вялікадзяржаўны, шавіністычны лад мыслення – як на далоні.

Але сёння ў беларускім пытанні Жырыноўскі выказваецца хітрэй. Маскоўскія адэпты аднаўлення імперыі разумеюць, што «малодшую сястру» трэба зацягнуць пад яе дах без лішняга гвалту, каб усё выглядала шчырым яднаннем. Бо інакш ніхто болей туды не захоча. Жырыноўскі ж і ягоныя аднадумцы мараць пра «*адзіную дзяржаву, у якую потым могуць уваходзіць і іншыя дзяржавы*».

Таму ён не кажа наўпрост пра планы паглынання, а, дэкларуючы карысць адзінай дзяржавы, праводзіць паралель з Еўрасаюзам, які «*даказаў свае перавагі*» (бач, а некалі прадказваў яму развал!).

Аднак гэта паралель тут не коціць. Ніводнай, нават самай маленькай краіне ЕС не пагражае паглынанне. Эстонцы не баяцца, што іх далучыць Фінляндыя, а баяцца хіба што расійскай агрэсіі. У сённяшняй Еўропе няма імперыі, якая імкнулася б падмяць пад сябе іншыя дзяржавы Старога Свету. Маюцца лідары, найперш Германія, але ж яна не замахваецца на Аўстрыю на той падставе, што там гавораць па-нямецку. Цэнтр еўрапейскай інтэграцыі – Брусель, сталіца Бельгіі, якая на ролю імперыі ну ніяк не прэтэндуе.

Урэшце, у межах ЕС інтэгруюцца аж 28 краін. А ў так званай саюзнай дзяржаве – толькі два суб'екты, якія каласальна адрозніваюцца па вагавых катэгорыях. Прычым у большага суб'екта – вялікая імперская гісторыя і імперскія замашкі, якія нікуды не зніклі, пра што яскрава засведчылі анексія Крыма ды падзеі на Данбасе.

Хтосьці скажа: ну што вы трасіце палемічны порах на адлуп дзеячу, якога навят у Расіі многія лічаць палітычным клоўнам! Ну, клоўн ці не, але ён толькі здаецца адвязаным. Насамрэч – заўсёды трымае нос па ветры, агучвае менавіта тое, што не заўжды могуць артыкуляваць самыя вялікія расійскія шышкі.

Чаму Крэмль узяўся педаляваць так званую прасунутую інтэграцыю, настойвае на выкананні саюзнай дамовы 1999 года?

Аўтарытэтныя маскоўскія крыніцы сведчаць: дабудова саюзнай дзяржавы – гэта адзін з варыянтаў, як вырашыць праблему 2024 года для Уладзіміра Пуціна. Той, мяркуючы па ўсім, не збіраецца сыходзіць з улады, але і не хоча парушаць расійскую Канстытуцыю, паводле якой можна быць прэзідэнтам не больш за два тэрміны запар. Узначаліўшы ж нейкую новую дзяржаву кшталту канфедэрацыі з Беларуссю, Пуцін «элегантна» абыходзіць фармальную перашкоду. Новая дзяржава – новы адлік.

Таму на беларускае кіраўніцтва ціснуць моцна ціснуць. Выкарыстоўваюцца найперш эканамічныя рычагі. Масква адмовілася кампенсаваць Беларусі страты ад падатковага манеўру ў расійскай нафтавай галіне. Паводле падлікаў беларускага боку, да 2024 года Мінск можа недалічыцца праз гэта блізу 10,5 мільярда долараў. Акрамя таго, расійскі бок падвесіў перамовы пра цану газу з 2020 года, прыціскае пад розныя маркамі замінаць пастаўкам беларускіх прадуктаў харчавання і г.д. Карацей, бяруць на цугундар. Дацiскаюць.

Той самы Жырыноўскі прагаварыўся накont гэтай новай стратэгіі ў снежні летась, калі напісаў у сваім тэлеграм-канале наконт перспектыў аб'яднання: «*Усё толькі добраахвотна. Але трэба зразумець: або нашы ўзаемадносіны рынкавыя, або ўваходзьце ў склад Расіі і атрымлівайце нізкія цэны*».

Тут можна запярэчыць: акурат Масква адцягнула аж на 2025 год стварэнне агульных рынкаў энергарэсурсаў у межах ЕАЭС, што давала б Беларусі ніжэйшыя цэны. Але факт тое, што рэсурсы ў руках Расіі, яна дыктуе ўмовы.

Між тым чарада цяжкіх перамоў між Лукашэнкам ды Пуціным у Маскве ды Сочы не дала плёну. Справа ў тым, што Крэмль апрыёры не можа прапанаваць беларускаму кіраўніку нешта большае, чым паўната ўлады ў асобна ўзятай краіне. Таму той будзе супраціўляцца «паглыбленай інтэграцыі» па сцэнары Масквы, маскіруючы гэта заявамі, што мы, маўляў, не супраць, але давайце пачынаць з падмурку, а не з даху.

Іншая справа, што такая тактыка – нeяк разруляваць спрэчныя пытанні тэт-а-тэт з Пуціным ці ўтапіць нявыгадныя для Беларусі варыянты ў перамоўным балоце – не выглядае моцнай. Дзеля ўмацавання незалежнасці трэба ладзіць рэформы і развіваць нацыянальную самасвядомасць.

А з гэтым у нас кепска. Эканоміка, абцяжараная неэфектыўным дзяржаўным сектарам, фактычна топчацца на месцы. Адмова арганізатарам сёлетняга Дня Волі ў найлепшых пляцоўках – гэта адкат у параўнанні з мінулым годам. Кіроўныя вярхі стрымліваюць развіццё грамадзянскай супольнасці, бо бачаць у гэтым пагрозу для цяперашняй сістэмы ўлады.

Але тут трэба наважвацца, выбіраць. Бо калі прыйдзе Масква, дык тутэйшых тузоў паскідаюць з пасад адназначна. І прыгрэты імі бізнес забяруць. Так што праслізнуць між кропельканi не пашэнціць.

Зрэшты, я тут не пра лёс тузоў пераймаюся. Гаворка пра лёс Беларусі. Сёння на душы трывожна. Чыннікі захавання незалежнасці не такія моцныя, як хацелася б. Эканоміка страшэнна залежная ад Расіі, і без трансфармацыі мадэлі гэту залежнасць істотна аслабіць не ўдасца. На стан нацыянальнай самасвядомасці кепска ўплывалі і ўплываюць доўгая русіфікацыя, уплыў расійскай прапаганды, нерашучасць улад у справе беларусізацыі.

Але не варта панікаваць, што вось усё, капец, інкарпарацыя непазбежная. Як бы там ні было, але за гады незалежнасці і ў масах, і ў элітах збольшага сфарміравалася ўсведамленне, што суверэнітэт – найвялікшая каштоўнасць.

Вось у снежні Жырыноўскі напісаў у сваім тэлеграм-канале, што «*калі зараз правесці ў Беларусі рэферэндум пра ўваходжанне ў склад Расіі – абсалютная большасць падтрымае гэта*». Але незалежная беларуская сацыялогія сведчыць пра іншае. Паводле апытання, праведзенага ў верасні летась Беларускай аналітычнай майстэрняй Андрэя Вардамацкага (BAW, Варшава), толькі 2,7 працэнта беларусаў выказаліся за ўваходжанне сваёй краіны ў Расію ў якасці суб'екта федэрацыі. Пераважная ж большасць – за тое, каб Беларусь і Расія заставаліся «*незалежнымі, але сяброўскімі краінамі*».

Як бачым, у масе сваёй беларусы не настроены здаваць суверэнітэт за бочку нафты. Іншая справа, што найбліжэйшыя гады стануць для нацыі няпростым выпрабаваннем. Бо беларускі кавалак ласы для адэптаў «*збірання зямель*», і ў каго-кольвек у Маскве ўжо цякуць слінкі.

Але Крэмль ужо абламаў зубы на Украіне. Мой прагноз: аблом чакае Маскву і на беларускім кірунку.

СЛЫШАЛИ?

### Белорусы на третьем месте

Согласно последней переписи населения, в Литве проживают представители 154 национальностей. Самым крупным меньшинством являются поляки. Они составляют 6,6% от всего населения – это около 200,3 тысячи человек. На втором месте стоят русские, составляющие 5,8% от всех жителей – 176,9 тысячи человек, а замыкают тройку лидеров белорусы, составляющие 1,2% от всего населения – около 36,2 тысячи человек.

ПУЛЬС

### Нильсен уходит…

Дональд Трамп объявил, что министр внутренней безопасности США Кирстен Нильсен покидает свой пост. Она занимала эту должность с декабря 2017 года.

Президент Трамп поблагодарил Нильсен в «Твиттере» за службу и написал, что она будет временно заменена комиссаром по таможенным и пограничным вопросам Кевином Макалинаном.

В США Нильсен жестко критиковали за защиту некоторых из наиболее спорных законов Трампа, касающихся охраны государственных границ страны.

### Нефть дорожает

Так, сорт Brent подорожал выше психологически важной отметки в 70 долларов за баррель и **находится на максимальном уровне с начала ноября 2018 года**. По итогам минувшей недели котировки выросли на 4,1%. WTI завершила «в плюсе» пятую неделю подряд, прибавив в цене за последние пять рабочих дней около 4,9%.

С начала 2019 года цена Brent подскочила на 30,7% и 8 апреля дошла до цены 70,58 доллара за баррель, WTI – примерно на 39%, до 63,41 доллара за баррель.

### Гуайдо заявил о финальном этапе протестов

Лидер оппозиции Венесуэлы Хуан Гуайдо призвал к огромной общенациональной акции в среду, 10 апреля, и призвал своих последователей удвоить усилия для поддержания давления на режим на улицах.

Ранее Гуайдо заявил, что опасается похищения правительственными агентами после того, как правительство лишило его депутатской неприкосновенности и уполномочило Верховный суд страны преследовать его за провозглашение себя президентом.

Как известно, более 50 стран мира признали Гуайдо временным главой Венесуэлы.

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

## В фокусе внимания – немецкие салафиты

Правительство ФРГ одобрило предложение министра внутренних дел лишать немецкого паспорта совершеннолетних немцев с двойным гражданством за доказанное участие в боевых операциях за рубежом в составе террористических группировок. Такая мера может быть принята и в отношении лиц, решивших воевать в Донбассе на стороне пророссийских боевиков.

Официальный представитель канцлера Штеффен Зайберт пояснил, что инициатива немецкого МВД направлена в первую очередь на то, чтобы остановить жителей Германии с двойным гражданством, которые собираются отправиться в Сирию, чтобы влиться в ряды боевиков «Исламского государства». Но речь может идти не только об этой террористической группировке.

## Требования активистов станут законом в Баварии

Правительство Баварии заявило, что требования, изложенные в петиции «Спасти пчел!», станут законом. В ближайшее время правительство вынесет его на рассмотрение местного парламента, члены которого уже готовы поддержать изменения.




Петиция «Спасти пчел!» набрала рекордное число подписей – ее поддержали 18% баварцев (более 1,7 млн человек), при том что для пересмотра закона достаточно и 10% голосов. Баварцы требуют пересмотреть региональное законодательство в сфере защиты окружающей среды и биоразнообразия. Они надеются благодаря этому сохранить исчезающие виды растений, животных и насекомых, в первую очередь пчел. Согласно этим требованиям, 20% сельскохозяйственных угодий к 2020 году должны соответствовать стандартам органического земледелия, а к 2030 году – уже 30%. Кроме того, петиция требует вести более жесткий контроль за попаданием в водоемы пестицидов и химических удобрений, а также посадить цветы как минимум на 10% зеленых зон отдыха в Баварии.

## Как немцы прививают своих детей


© picture alliance/Bildagentur-online/Tetra Images

Обязательной вакцинации в Германии нет: родители сами принимают решение. И, к слову, большинство детей в Германии привиты. Наиболее полную картину можно получить по первоклассникам: около 95 процентов из них имеют все базовые прививки. Это последние данные Института Роберта Коха по вакцинации детей, которые пошли в школу в 2015 году.

В большинстве своем немецкие родители – люди разумные, отмечают в Союзе педиатров Германии. Но каждому врачу приходится иметь дело с теми, кто наотрез отказывается прививать своих детей. «Всегда есть противники вакцинации, но это очень маленький процент, и он остается постоянным», – говорит Херман Йозеф Каль. В его врачебной практике в Дюссельдорфе в год бывает два-три таких случая. Главная проблема не в тех, кто отказывается от вакцинации полностью, а в тех, кто не соблюдает календарь прививок. В целом уровень вакцинации в стране высокий. «Недостаточно высокие показатели у нас пока только по повторным прививкам (от кори)», – отмечает специалист.

В Германии многие заболевания, от которых прививают детей, удалось практически искоренить. Например, с 1998 года не делается прививка БЦЖ, которая защищает от тяжелых форм туберкулеза. Риск заболевания в Германии оценивается ниже 0,1 процента. В этом случае Всемирная организация здравоохранения рекомендует не проводить общую вакцинацию. На немецком рынке медицинских услуг нет больше и самой вакцины от туберкулеза: ее просто больше не производят.

ТАМ, В УКРАИНЕ

## Где и когда пройдут дебаты Порошенко и Зеленского?

*В Украине набирает обороты эпопея с дебатами между кандидатами в президенты* ***Петром Порошенко и Владимиром Зеленским****. То место встречи никак не могут согласовать, то уже называются разные даты.*

Согласно статье 62 закона «О выборах президента Украины», теледебаты проводятся в последнюю пятницу перед днем повторного голосования между 19 и 22 часами в прямом эфире, продолжительностью не менее 60 минут. Повторное голосование уже назначено на 21 апреля, а значит, по закону дебаты должны состояться 19 апреля.

Теледебаты организовывает Национальная общественная телерадиокомпания. Встреча претендентов на президентское кресло может также транслироваться бесплатно другими каналами вещания. Кандидаты принимают участие в теледебатах лично и без представителей своих штабов.

### Что говорят кандидаты

В то же время неожиданно для всех Зеленский предложил Порошенко устроить дебаты на стадионе «Олимпийский», на что действующий президент дал согласие.

Более того, **Порошенко** даже пообещал оплатить 50 процентов стоимости аренды НСК, а в интервью телеканалу «Украина» заявил, что ждет Зеленского на стадионе 14 апреля.

В то же время Зеленский в очередном видеообращении подтвердил свое участие в дебатах, но, как положено, 19 апреля, хотя и не в предусмотренном законом месте.

### Позиция руководства НОТУ и «Олимпийского»

Заместитель генерального директора по административной работе НСК **Виктор Анисимов** обещает, что в случае принятия решения проводить дебаты на «Олимпийском» стадион имеет все технические возможности провести мероприятие. Он добавил, что желательно, чтобы заявка на проведение дебатов поступила не позже 17 апреля.

Глава Национальной общественной телерадиокомпании (НОТУ) **Зураб Аласания** заявил, что дебаты в случае их проведения в студии обойдутся примерно в миллион долларов. В то же время он говорит, что 19 апреля эфир будет в любом случае.

В то же время ЦИК Украины настаивает, что официальные дебаты кандидатов в президенты Владимира Зеленского и Петра Порошенко за средства государственного бюджета должны проводиться в студии Общественного телевидения.

УЖАС!



## Слон затоптал браконьера, а его тело съели львы

*Страшный случай произошел в Национальном парке Крюгера в ЮАР.*

Сообщники погибшего, который, судя по всему, охотился на носорога, рассказали его семье, что он был убит слоном. Родственники сообщили о случившемся сотрудникам парка.

Поисковая бригада долго искала тело и через два дня обнаружила человеческий череп и брюки – это все, что осталось от охотника.

Управляющий парком выразил соболезнования семье погибшего.

«*Проникать на территорию Национального парка Крюгера нелегально и пешком – верх безрассудства*, – сказал он. – *Заповедник таит в себе много опасностей, и этот инцидент служит тому доказательством*».

Национальный парк Крюгера постоянно сталкивается с проблемой браконьерства, в частности, потому, что в странах Азии сохраняется высокий спрос на рог носорога. И, к слову, в минувшую субботу сотрудники аэропорта Гонконга конфисковали крупнейший за пять лет груз рога носорога на сумму 2,1 млн долларов.

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# Елки, палки и народные артисты

На бульваре Мулявина в нашей столице есть чудный сквер. Он заложен давным-давно, когда бульвар носил имя Луначарского, и создан профессионалами-ландшафтниками: пейзаж с любой точки обзора выглядит законченной композицией. Все продумано, все разумно. Я даже сказала бы, изысканно: с кондачка так пространством не распорядишься, нужны специальные знания.

Когда-то в сквере росли кусты сортовой сирени, после капитального ремонта, правда, их сохранить не удалось. Что ж, город не музей, филармонии надо было расширяться, пришлось чем-то жертвовать. Зато теперь есть декоративные яблони необыкновенных сортов. Когда они цветут (в этом году осталось ждать, наверное, месяц, не больше), к яблоням можно водить экскурсии как к чуду природы. Это настоящий салют цвета! Это гимн жизни, ее вечному возрождению. Таких цветущих яблонь нет в городе нигде. После концерта в филармонии многие специально идут на бульвар, чтобы посмотреть на этот застывший бело-розовый водопад, потому что он будто продолжает только что услышанную в зале музыку. Да он и сам – музыка. Музыка цвета и грандиозный дифирамб Создателю. Ну что, скажите, может помериться славой с живой природой?

Разве только генеральный директор Белгосфилармонии Александр Валентинович Гарбар. И я к нему со всем уважением. Но… Несколько лет назад директор «родил» идею высадить вдоль главной дороги этого камерного сквера голубые ели и назвал этот проект «Аллея славы». Подозреваю, что в том числе, а может быть прежде всего своей – по крайней мере табличка с объяснением, зачем здесь появились елки в ряд, точно указывает, кто задумал и осуществил сей «кундштук». Естественно, генеральный директор.

Ах, какая свежая инициатива, какое достижение! Хотя, собственно, кто еще мог решиться так своевольно нарушить ландшафтный дизайн старинного сквера, как не хозяин территории? Вот интересно, что он (точнее уже преемник директора) будет делать с елками потом, когда они вырастут? Ведь эти грандиозные вечнозеленые деревья закроют солнечный свет всем остальным растениям в сквере, в том числе и яблоням. Их, конечно, видно уже не будет. Зато всегда будет видна табличка с фамилией автора аллеи – директора Гарбара. Табличка достаточно большая, и она-то установлена на самом виду.

У нас это, похоже, новая национальная традиция: каждому начальнику – своя табличка. На Большом театре тоже установлена «доска памяти», как называю ее я: о том, что только благодаря президенту отремонтировано это здание. А ведь деньги, как мы догадываемся теперь, могли уйти на новую ферму. Но президент, слава труду, направил их на культуру. Бронзовая табличка никогда не даст нам об этом забыть. Думаете, это тщеславие первого лица? А я вот подозреваю, что подхалимаж подчиненных.

Генеральному директору ведущего музыкального учреждения тоже, наверное, кто-то посоветовал не забыть про себя – не сам же он заказал себе табличку! И руководитель пошел «навстречу пожеланиям трудящихся». И то правда: как лавры – премии и звания – так артистам, а хозяйственникам что? Зато теперь директор навсегда вписал свое имя в «зеленую» историю, и попробуй выкорчуй, да и защитники природы уже не дадут. Как говорится, «я памятник себе воздвиг»… Что ж, очень дальновидно.

Все-таки провинциализм – это не социальная характеристика по месту рождения, это, скорее, состояние души. Ко всему прочему под каждой елкой на бульваре Мулявина вкопана табличка с фамилией народного артиста. Их уже около тридцати – солистов и дирижеров. Это действительно творческий цвет нации: Михаил Козинец, Александр Анисимов, Эдуард Ханок, Ядвига Поплавская, Михаил Финберг, Игорь Лученок... Но под каждой фамилией музыканта есть еще название организации, которая эту елку купила в дар артисту, чтобы он посадил ее себе во славу. Такая вот многоступенчатая реклама. Здесь и администрация Советского района, и ОАО «ЦУМ Минск», и ЗАО «Мебельстройматериалы», БНТУ, «Минские телевизионные информационные сети»… Есть даже рестораны, им тоже пришлось раскошелиться: ЗАО «Патио» и ООО «РесторанМаркет». Похоже, весь город сбрасывался на елки нашим народным артистам. Еще бы указали, сколько за каждую пришлось заплатить. Обычно такая черновая административная работа остается на бумаге, но – делиться славой, так делиться. И только вдова народного артиста Виктора Вуячича, видимо, не пожалела собственных денег для увековечивания памяти своего покойного мужа, знаменитого советского эстрадного певца. Потому что на табличке у ели больше нет ничего, кроме слов: «Дерево посадила Светлана Вуячич». От сердца – к сердцу. Достойно. У остальных какой-то административный переполох.

И напоследок. Взялись за славу, так хоть ухаживайте за ней. Елка солистки Большого театра народной артистки Анастасии Москвиной практически засохла. Стоит уже палка, а не елка. Неудобно как-то… Это что – намек? Или просто от РУП «Белорусский Дом печати», который купил зеленое дерево для певицы, пришел плохой посадочный материал? Сэкономили… Я бы на месте оперной звезды обиделась, а то и к экстрасенсу пошла. Порчу снимать.



СІТУАЦЫЯ

# Бяжыце… заплаціўшы міліцыі 5737 рублёў

*Палажэнне новага закона блакіруе аматарскі спорт*

«Федэрацыя прыгодніцкіх гонак» пры арганізацыі чарговага веламарафону і аматарскага забегу ў Смаргонскім раёне сутыкнулася з непрадбачанай праблемай. Паводле новага заканадаўства, арганізатары масавага мерапрыемства павінны аплаціць паслугі міліцыі ў суме 5737 рублёў.

«Федэрацыя прыгодніцкіх гонак» – некамерцыйная спартыўна-масавая ўстанова, якая існуе ў Мінску. Паводле слоў намесніка старшыні федэрацыі **Міхаіла Сідарука**, яны накіроўваюць свае высілкі на развіццё актыўнага турызму і прапаганду здаровага ладу жыцця і займаюцца арганізацыяй спартыўна-масавых мерапрыемстваў. Сёлета федэрацыя запланавала правядзенне веламарафону «Вітаўт» і аматарскага забегу «Жук-трэйл» у ваколіцах Крэва Смаргонскага раёна.

Нават на такія мерапрыемствы ў нашай краіне патрэбна атрымаць дазвол. Намеснік старшыні Смаргонскага райвыканкама **Г.П.Бычко** так і напісаў арганізатарам: улады не супраць, але пры ўмове, што будзе падпісана дамова з РАУС на «*ахову грамадскага парадку падчас правядзення масавага мерапрыемства*». Чыноўнік спаслаўся на дзеючае заканадаўства аб арганізацыі і правядзенні масавых мерапрыемстваў, паводле якога ад 1 лютага пачало дзейнічаць новае палажэнне, якім і прадугледжваецца абавязковая аплата паслуг міліцыі па ахове грамадскага парадку, калі мерапрыемствы праходзяць без удзелу ўлад. Прычым сума складае 225 базавых велічынь, ці 5737 рублёў – больш за дзве з паловай тысячы долараў.

«*Гэта павялічвае бюджэт мерапрыемства не проста на многа, а вар’яцкі на многа,* – кажа Сідарук. – *Нашы марафоны і забегі ладзяцца выключна на ўзносы саміх удзельнікаў, і ніякіх іншых паступленняў мы не маем. А бегаць за такі кошт у нашай краіне ніхто не пагодзіцца*».

На ўдзел у сёлетнім марафоне, паведаміў спадар Сідарук, зарэгістравалася больш за 200 чалавек з розных гарадоў Беларусі. Кожны ўнёс па 20–23 рублі, а сабраць яшчэ па столькі ж на міліцыю, якая ім, па сутнасці, і не патрэбна, гэта ўжо занадта.

«*У нас толькі старт праводзіцца ў самым мястэчку Крэва*, – распавядае Міхаіл, – *а потым дыстанцыя праходзіць па лясных і палявых дарогах. Нам не патрэбны нават супрацоўнікі ДАІ, каб перакрыць транспартныя артэрыі*».

Ён дадае, што арганізатары марафону і забегу былі гатовы ўзяць на сябе аплату паслуг медыкаў.

Намеснік старшыні «Федэрацыі прыгодніцкіх гонак» дадае, што суму ў дзве з паловай тысячы долараў больш правільна было б патраціць на дзіцячыя хоспісы, а не на Смаргонскі РАУС, які і так утрымліваецца за падаткі грамадзян.

Раней пры арганізацыі падобных мерапрыемстваў забяспечвалі ахову правапарадку сіламі сваіх валанцёраў. За ўсе гады яе дзейнасці ніякіх правапарушэнняў падчас падобных мерапрыемстваў не фіксавалася, хаця часта іх наведвалі ўчастковыя міліцыянеры і нават кіраўнікі РАУС.

Новае палажэнне ў заканадаўстве насцярожыла «Федэрацыю» яшчэ ў студзені, калі было апублікавана. Сідарук распавядае, што пачалі шукаць выйсце. Адзін з варыянтаў – праводзіць мерапрыемствы пад патранатам мясцовых улад. Так, у сакавіку разам з Гродзенскім райвыканкамам правялі забег. А вось у Смаргоні дамовіцца не ўдалося.

«*Мы праводзім вялікую работу, для таго каб у гэтую пастанову былі ўнесены змены,* – кажа Сідарук. – *Бо інакш аматарскі спорт і фізкультура могуць проста знікнуць*».

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**P.S.** Калі матэрыял рыхтаваўся да друку, стала вядома, што праблему ўдалося вырашыць. Міхаіл Сідарук сказаў «Народнай Волі», што ў выніку доўгіх перамоў са Смаргонскім райвыканкамам і Гродзенскім аблвыканкамам сітуацыя вырашылася на карысць арганізатараў спаборніцтваў і ім не патрэбна ўносіць грошы на рахунак міліцыі. Праўда, дэталі ўзаемадзеяння са Смаргонскім РАУС пакуль не вызначаны.

ПАДЗЕЯ

# Другая «Прадмова» для разумных чытачоў

З 4 па 7 красавіка ў Мінску прайшоў другі Фестываль беларускай інтэлектуальнай кнігі «Прадмова». Але ж на гэты раз не толькі ў Мінску. Ужо з 3 красавіка пісьменнікі, кнігавыдаўцы і гандляры, літаратурныя крытыкі ездзілі па рэгіёнах краіны, распавядаючы чытачам пра навінкі беларускага «разумнага» кніжнага рынку.

У сталіцы ж адбыўся заключны этап акцыі. Былы цэх завода імя Кастрычніцкай Рэвалюцыі, дзе размясцілася культурная прастора ОК-16, прымаў гасцей. Кожны дзень ішлі дыскусіі, прэзентацыі, гандаль кнігамі і сустрэчы з пісьменнікамі, філосафамі і культуролагамі. Аматары паэзіі маглі сустрэцца з паэтамі і перакладчыкамі, і не толькі айчыннымі. Ганаровым госцем фестывалю, напрыклад, у гэтым годзе быў знаны літоўскі паэт і грамадскі дзеяч, сябар славутага Іосіфа Бродскага Томас Венцлава. Ён выступаў двойчы, таму кожны жадаючы мог атрымаць яго аўтограф на кніжачцы беларускіх перакладаў, якая выйшла ў серыі «Паэты планеты».

Можна было прайсці перакладчыцкі майстар-клас у Андрэя Хадановіча, які прэзентаваў кніжку беларускіх перастварэнняў Уладзіміра Маякоўскага: у інтэрпрэтацыі беларускіх літаратараў паэт паўстаў цалкам сучасным і ў нечым нечаканым.

Апладысменты падчас сустрэч чакалі **Марыю Мартысевіч, Юлю Цімафееву, Віталя Рыжкова, Стася Карпава**, мэтраў беларускай паэзіі **Алеся Разанава і Уладзіміра Арлова**, празаікаў **Альгерда Бахарэвіча і Ганну Севярынец.**

Былі ўручаны незалежныя літаратурныя прэміі: імя Цёткі – за лепшую дзіцячую кнігу, імя Міхаіла Анемпадыстава – за лепшы кніжны дызайн, імя Францішка Багушэвіча – за лепшую кнігу на гістарычную тэматыку. Дарэчы, тэма беларускай гісторыі стала адной з галоўных на сёлетняй «Прадмове». Як і дзіцячая тэма. Было шмат каляровых дзіцячых кніжак, працавала адмысловая дзіцячая пляцоўка, а вядомая пісьменніца і настаўніца Ганна Севярынец правяла для дзяўчатак і хлопчыкаў літаратурную гульню «Што? Дзе? Калі?». Мастацкі кіраўнік Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы **Мікалай Пінігін** абмеркаваў з гледачамі і крытыкамі канцэпцыю свайго спектакля «Дзве душы», а журналістка **Вера Савіна** прэзентавала кнігу пра славутага спевака Чэслава Немэна.

Актыўна прапагандавала культуру і гісторыю сваёй краіны амбасада Літвы ў Мінску. У нядзелю, 7 красавіка, Надзвычайны і Паўнамоцны Амбасадар Літвы спадар **Андрус Пулокас** быў амаль што самай заўважнай асобай: апроч выступлення **Томаса Венцлавы** ён прысутнічаў на прэзентацыі рамана літоўскага пісьменніка **Рыгордаса Гавяліса** «Вільнюскі покер», а таксама выступіў на прэзентацыі новай кнігі **Аляксандра Фядуты** «Філамат у Імперыі» пра сябра **Адама Міцкевіча**, метрыканта Літоўскай Метрыкі ў Пецярбургу **Францішка Малеўскага**.

Амбасада Літвы брала ўдзел у «Прадмове» другі раз запар. У гэтым годзе яе прыкладам скарысталіся швейцарцы, якіх прадстаўляў Швейцарскі савет па культуры «Pro Helvetia». Адмыслова дзеля ўдзелу ў «Прадмове» ў Мінск з Расіі прыехаў славуты **Віктар Ерафееў**.

Арганізатарамі свята выступілі ўстанова культуры «Кніжны офіс» і беларускі ПЭН-цэнтр. Што вельмі парадавала, дык гэта колькасць наведвальнікаў фестывалю. У гэтым годзе іх было значна болей, і большую частку з іх складала моладзь. Значыць, будучыня ў беларускай «разумнай» кнігі ёсць!

**Алесь КЛЯЎЧУК.**

ВЫСТАВА

# Асабісты фатограф Радэна паходзіў з Гродна

*У Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі адкрылася выстава з парыжскіх архіваў вядомага ва ўсім свеце, але малавядомага ў Беларусі фатографа Пятра Шумава, які нарадзіўся ў Гродне.*

## 33 фотапартрэты знакамітых людзей

Выстава так і называецца: «Пётр Шумаў. Вяртанне дадому». На ёй прадстаўлены фотапартрэты сусветна вядомых асоб: Альберта Эйнштэйна, Марка Шагала, знакамітага гродзенца, бліскучага разнажанравага мастака Льва Бакста, Якуба Наркевіча-Ёдкі, Івана Буніна, Сяргея Пракоф’ева, Клода Манэ, Айсейдоры Дункан, Анры Барбюса, Антона Чэхава, Пятра Шаляпіна, Марыны Цвятаевай, Сяргея Ясеніна, Ільі Эрэнбурга, Аляксандра Купрына... Усяго 33 здымкі з архіваў французскага фонду «Parisienne de Photographie – «Roger-Viollet», зробленыя Пятром Шумавым 100 і больш гадоў таму ў Парыжы. Дарэчы, французскі фонд перадаў на вечнае захаванне гораду Гродна дзве копіі ягоных здымкаў – аўтапартрэт і партрэт Льва Бакста.

«*Многія нашы землякі воляю лёсу пакінулі родныя мясціны і працавалі за мяжой, ствараючы культурную спадчыну чалавецтва. Сярод іх быў і Пётр Шумаў, творчасць якога ўпершыню прадставілі на яго радзіме*», – зазначыў падчас адкрыцця выставы былы пасол Беларусі ў Францыі **Павел Латушка**.

Латушка распавёў, што, калі ён працаваў пaслом Беларусі ў Францыі, да яго з лістом звярнуўся гродзенскі журналіст і фатограф **Аляксандр Ласмінскі,** які папрасіў паспрыяць, каб спадчыну яго земляка Пятра Шумава пабачылі на радзіме, у Гродне.

Перамовы з французскім фондам працягваліся год, і 33 копіі фотаздымкаў Пятра Шумава прывезлі ў Гродна. І, як зазначыў былы пасол, не задарма. За тое, каб паказаць здымкі Шумава на радзіме, гродзенская фірма «Конта-СПА», якая выступіла фундатарам выставы, паводле неафіцыйных звестак, заплаціла французскаму фонду пяць тысяч долараў.

«*Я сёння шкадую, што не нарадзіўся ў Гродне*, – прызнаўся журналістам Павел Латушка. – *Бо нарадзіцца ў тым самым горадзе, дзе і Пётр Шумаў, гэтым ужо можна ганарыцца*».

## Вучыўся ў гімназіі на Савецкай, сядзеў у турме побач з Фарным касцёлам

Пра жыццё знакамітага фатографа распавёў Аляксандр Ласмінскі. Пётр Шумаў нарадзіўся ў 1872 годзе ў Гродне ў дваранскай сям’і. Скончыў Гродзенскую мужчынскую гімназію, будынак якой і зараз стаіць на Савецкай вуліцы. Быў студэнтам Тэхналагічнага інстытута ў Санкт-Пецярбургу, але ў 1894 годзе яго выключылі за ўдзел у рэвалюцыйным гуртку.

Чатыры гады адседзеў у гродзенскай турме, а пасля паразы першай рускай рэвалюцыі з жонкай і дачкой з’ехаў у Парыж. Там і заняўся фатаграфіяй, у чым яму вельмі дапамог Ян Стражэцкі, з якім ён быў знаёмы яшчэ гімназістам у Гродне.

«*Аднойчы Шумаў рабіў здымкі на замову Радэна. Радэн быў вельмі патрабавальны і заўсёды выказваў незадавальненне працай фатографаў, з якімі даводзілася мець справу,* – распавядае Ласмінскі. – *Але скульптару вельмі спадабаліся работы Шумава, які да канца жыцця Радэна заставаўся яго асабістым фатографам і меў за гэта добры заробак*».






Павел Латушка распавядае гродзенскім журналістам пра выставу Пятра Шумава.

## Здымаў вяселле Радэна і яго пахаванне…

Засталіся зробленыя Шумавым здымкі Радэна: скульптар падчас працы і з дамачадцамі, вяселле Радэна з яго шматгадовай спадарожніцай Руж Беру, а праз 15 дзён пасля вяселля яе пахаванне…

Усяго Шумаў зрабіў 149 здымкаў твораў Радэна і 58 здымкаў, на якіх занатаваў вялікага француза ў розных сітуацыях. Яго аб’ектыў назаўжды пакінуў для нашчадкаў выяву геніяльнага скульптара на смяротным ложы. Разам яны былі шэсць гадоў.

У 1911 годзе Шумаў адкрыў уласны фотасалон на вуліцы дэ Фобур Сэн-Жак, 5 на знакамітым Манпарнасе – у цэнтры мастацкага жыцця не толькі Парыжа, але і ўсёй Еўропы.

«*Дом, у якім была майстэрня Шумава, захаваўся, там цяпер месціцца добрая кавярня. Варта пабываць*», – дадае Ласмінскі.

Кніга папярэдніх заказаў на фатаграфіі была запоўнена ад першай да апошняй літары. Першым кліентам у ёй быў запісаны Анры Барбюс, завяршаў алфавіт Альберт Эйнштэйн.

«*Мяне як фатографа найбольш уражвае ягоная вытанчаная тэхніка выканання,* – адзначае Ласмінскі. – *Прапрацоўка ценяў, пільны падбор святла, твары, якія глядзяць на нас па-добраму, – гэта вельмі важна. Ён паказваў тую разынку, дзякуючы якой чалавек прыцягваў да сябе іншых людзей*».

## Пахаваны ў Лодзі, жонка згінула ў гета

У 1933 годзе з-за эканамічнага крызісу ў Еўропе Шумаў закрыў сваё атэлье, а на пачатку 1935 года пераехаў у Польшчу і пасяліўся ў Лодзі, дзе і памёр 25 чэрвеня 1936 года.

Ягоная жонка, Кейла Лапіна, таксама гродзенка, пасля смерці мужа вярнулася ў родны горад, дзе яе напаткаў трагічны лёс тысяч яўрэяў: у 1941–1942 гадах яна бясследна знікла ў гета на Замкавай вуліцы.

Французскі фонд, паводле слоў Паўла Латушкі, даў дазвол на трохмесячнае знаходжанне выставы Шумава ў Беларусі. Пасля Гродна яе яшчэ можна будзе пабачыць у Мінску.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ПАМЯЦЬ

# Французские лицеисты пройдут по следам Шоа

Их визит в Беларусь организовала французская неправительственная ассоциация «Яхад-ин унум», которая вот уже 12 лет собирает и документирует свидетельства преступлений против человечества, совершенных нацистами в годы Второй мировой войны. Молодые французы, как евреи, так и представители других народов, хотят пройти по следам Шоа, катастрофы европейского еврейства, в Беларуси («шоа» с иврита переводится как «бедствие» и употребляется наряду со словом «холокост»), чтобы составить для себя более полную картину трагедии, а также познакомиться с жизнью и обычаями белорусских еврейских местечек до войны.

Вчера французская молодежь побывала на территории, где нацисты организовали Минское гетто, затем ребята посетили старое еврейское кладбище, мемориал «Яма», памятник «Разбитый очаг». Вечером в «Исторической мастерской Минска» они встретились с послом Франции в Беларуси господином Дидье Канессом, а также с представителями белорусских еврейских ассоциаций и местной администрации. Состоялась церемония передачи исторической памятной доски в честь памяти жертв Минского гетто.

Сегодня лицеисты увидят мемориал «Тростенец», съездят в Смолевичи, а завтра в плане городской поселок Мир, где не только расположен наш знаменитый замок, но также в годы Второй мировой войны существовало гетто. Ребята встретятся с живыми свидетелями трагедии, посетят еврейское кладбище и места, где располагалось гетто, увидят такую местную достопримечательность, как мирская синагога и иешива.

**Виктория ДРОЗД.**

ГАСТРОЛЬ

# Стас Михайлов устраивает тур по Беларуси

*Российский певец даст концерты в Минске, Солигорске, Бобруйске, Гомеле, Могилёве, Лиде, Гродно и Бресте.*

В этом году у Михайлова юбилей, 27 апреля ему исполнится 50 лет. И уже 14 мая в минском Дворце спорта он даст концерт. К слову, эта площадка вмещает около трех тысяч зрителей. И по этому показателю, конечно, уступает «Минск-Арене», где недавно с аншлагом прошли концерты других российских артистов – Полины Гагариной, «Би-2», Филиппа Киркорова.

*«Мой юбилейный концерт – это не погружение в ностальгию, – говорит Михайлов. – Ведь прошлое уже было, завтра еще только наступит, а вот сегодня – это здесь и сейчас. Так давайте же сегодня жить, петь, танцевать и любить! У меня в программе будет много моментов, когда люди смогут петь и двигаться вместе со мной. Слушатели должны получить максимум удовольствия от концерта».*

К слову, билеты на выступление Стаса Михайлова стартуют от 40 рублей и доходят до 240. И это дороже, чем, например, на шоу Киркорова, которое прошло 6 апреля в «Минск-Арене» и билеты стоили от 35 до 220 рублей.

**Анна ГОНЧАРИК.**

РЕЙТИНГ

# Арина Соболенко – в десятке!

*Первая ракетка Беларуси сохраняет свои позиции.*



В обновленном рейтинге ВТА по-прежнему лидирует японка Наоми Осака.

Белоруска **Арина Соболенко** сохранила 10-ю позицию, а **Виктория Азаренко**, благодаря выходу в финал на турнире в Монтеррее, поднялась на 60-е место.

Александра Саснович – на 35-м месте, Вера Лапко – 65-я.

ЧУЛІ?

# Кампанія velcom змяняе назву і лагатып

*Мабільны аператар velcom мяняе назву і лагатып. Гэты рэбрэндынг праводзіць яго мацярынская кампанія A1 Telekom Austria Group. Новы брэнд кампаніі – A1.*

На працягу некалькіх бліжэйшых месяцаў кампанія будзе карыстацца двайным брэндам – velcom | A1. Потым на змену яму прыйдзе адзіны брэнд A1.

Для кліентаў гэты рэбрэндынг не прывядзе ні да якіх змен у іх дамовах з кампаніяй.

СВЕТСКАЯ ЖИЗНЬ

# Анастасия Лавринчук будет рада вашей поддержке

*Девушка представит Беларусь на конкурсе «Мисс-мира –2019».*

*«Miss World 2019 – в этом году я представлю Беларусь на престижном международном конкурсе, который пройдет в Таиланде*, – написала она вчера на своей страничке в Инстаграм. – *Все этапы подготовки, тренировки, репетиции, примерки... а еще семья, учеба, друзья и все самое интересное из моей обычной-необычной жизни здесь…*

*Буду рада вашей поддержке, друзья!».*



Анастасия Лавринчук в 2018 году стала второй вице-мисс Беларуси, но продолжила сотрудничать с Национальной школой красоты, и именно ее в этом году решили отправить на всемирный конкурс красоты который, к слову, пройдет в ноябре-декабре. Сама девушка признается, что была сильно удивлена такому решению, но, безусловно, рада этому.

Анастасии в этом году исполняется 19 лет, она студентка Института бизнеса БГУ. У нее есть две младшие сестренки, причем самую маленькую, трехлетнюю Вику, родители Анастасии удочерили. Семья Лавринчук верующая, родители красавицы – бизнесмены и много занимаются благотворительностью.

**Анна ГОНЧАРИК.**

РЭГІЁН

# У Салігорскім раёне з'явілася гасцініца для сабак

*Дог-гатэль размешчаны ў 13 кіламетрах ад горада ў вёсцы Старыя Цярушкі.*

– *Для мяне гэта сапраўдны ратавальны круг*, – распавёў жыхар Салігорска Аляксандр Міхнавец. – *Не будзе клопату, дзе пакінуць сабаку, калі трэба па справах на некалькі дзён з'ехаць з Салігорска... Неаднаразова абмяркоўвалі з уладальнікамі сабак, што вось добра было б, каб нехта з прадпрымальнікаў дадумаўся зрабіць такі годны часовы прыстанак для нашых гадаванцаў.*

У дог-гатэлі можна пакідаць на перыяд ад некалькіх гадзін да некалькіх месяцаў як дарослых сабак, так і шчанюкоў. За грошы іх гаспадароў там ім забяспечаны добрыя ўмовы ўтрымання.

А вось прытулку для бяздомных жывёл, якіх шмат і якім патрэбна дапамога людзей, у Салгорску, нягледзячы на намаганні абаронцаў братоў нашых меншых, дагэтуль няма.

**Ларыса НАСАНОВІЧ.**

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# Права на шчасце



***Пра такіх, як Вікторыя Пятровіч, кажуць: вырасла ў праблемнай сям'і. Пасля таго як яе маці апынулася за кратамі, дзяўчынка трапіла ў інтэрнат, дзе зведала пабоі і нелюбоў дарослых.***

***Дзяўчынкай Віку згвалцілі, а ў юнацтве яна добраахвотна мела зносіны з дарослым мужчынам.***

***Потым былі тры турэмныя тэрміны – увогуле 14 гадоў.***

***Зараз Вікторыі Пятровіч 38 гадоў. Яна спрабуе знайсці сваё месца ў жыцці і праўдзіць права на ўласнае шчасце.***

***…Мы сядзім з Вікай у невялічкім пакоі, п'ём каву і размаўляем пра яе няпростае жыццё. Асуджаць яе ці паверыць? Няхай кожны вырашае сам…***

## «Пераспіш са мной – атрымаеш грошы на гумку для брата…»

– Я нарадзілася ў Валожыне ў шматдзетнай сям'і – у мяне дзве сястры і тры браты. Разам з мамай мяне расціў айчым, яго я і лічу татам. Бацьку свайго я ведаю, але для мяне гэтага чалавека не існуе…

Маё дзяцінства скончылася ў дзевяць гадоў. У нашай сям'і здарылася страшнае – мама забіла стрыечнага брата. Ён збіваў сваю жонку, а мама заступілася за яе. Успыхнула спрэчка. Брат кінуўся на маці з сякерай… Яна казала, што гэта была самаабарона. Маме далі сем гадоў, адправілі ў турму, а нас, малых, – у дзіцячыя інтэрнаты.

**– Было цяжка?**

– Вельмі. Пасля таго як маму пасадзілі, органы апекі накіравалі мяне ў Жодзінскі дзіцячы дом. Для мяне гэта быў моцны стрэс, пахіснулася псіхіка. Усіх дзяцей летам адпраўлялі ў аздараўленчы лагер, а мяне – у псіханеўралагічны дыспансер. Дарослым здавалася, што я вельмі псіхаваная. Праз гэта я ўцякала з інтэрната. Я не хацела быць там… Дый каму падабаецца, калі яго пастаянна б'юць і прыніжаюць? Тады ў жодзінскім інтэрнаце працавалі розныя людзі – былі, канечне, і нармальныя выхавальнікі-нянечкі. Колькі буду жыць, столькі буду помніць тагачаснага дырэктара інтэрната Міхаіла Кашэўскага (яго ўжо няма на гэтым свеце) і выхавальніцу Ніну Міхайлаўну Чэмезаву. Яны добра да нас ставіліся. А астатнія, прабачце, нелюдзі…

Вы што-небудзь чулі пра дзіцячае рабства? Я была такім рабом. Нас вадзілі капаць агароды некаторым супрацоўнікам дзіцячага дома. Не пагадзіцца ці адмовіцца – сабе даражэй.

**– Што дапамагала выжыць там?**

– Уцёкі. Мяне, канечне, лавілі і вярталі – то ў «Навінкі» на лячэнне, то ў інтэрнат. Але гэтае адчуванне ілюзорнай свабоды вабіла, я збягала зноў і зноў. Яшчэ дапамагала вера ў тое, што гэты кашмар калісьці скончыцца. Увесь час, пакуль я знаходзілася ў інтэрнаце, чакала, калі мама вызваліцца і забярэ мяне дадому. А ў тым, што яна так і зробіць, я была ўпэўнена, бо, нават знаходзячыся за кратамі, яна не забывала пра нас – мы атрымлівалі ад яе пасылкі.

Калі мама вызвалілася, я была ў чарговых уцёках. У дзіцячы дом я ўжо не вярнулася, а самастойна дабралася дамоў – з Жодзіна ў Валожын, амаль пешшу.

**– Віка, скажыце, вы асуджаеце сваю маму?**

– За што? За сапсаванае дзяцінства? Не. Хоць яе выхаванне часам было жорсткім. Проста ёй не было адкуль браць прыклад правільных сямейных адносін. Яна сама прайшла праз інтэрнат. Распавядала, як харчавалася аб'едкамі, як спала на целагрэйках… У пэўным сэнсе я паўтарыла яе лёс.

**–У вашым жыцці яшчэ была страшная гісторыя – згвалтаванне ў дзяцінстве. Прабачце, разумею, што вам цяжка пра гэта ўспамінаць…**

– Гэта здарылася якраз падчас уцёкаў з інтэрната. На волі ў Жодзіне ў мяне была свая кампанія – хлопцы старэйшыя за мяне. Яны падаваліся мне такімі дарослымі, «блатнымі», з якімі нічога не страшна. Мы сябравалі. Але аднойчы сяброўства скончылася. Іх было трое – я адна. Пасля таго як усё гэта здарылася, быў суд. Дваіх асудзілі, трэцяга «адмазалі». З гэтым трэцім мы пазней сустрэліся – у жодзінскай турме. Я чакала этапу на Гомель – ён працаваў там канваірам.

**– Але, перажыўшы згвалтаванне, вы тым не менш уступілі ў сувязь з дарослым мужчынам… Навошта?**

– Так я зарабляла грошы. У мяне ёсць два малодшыя браты – Валодзя і Дзіма. Пасля таго як маці села, яны таксама апынуліся ў інтэрнаце, праз плот ад таго, дзе знаходзілася я. І тут жа, побач з інтэрнатам, стаяў шапік – я ведала прадаўшчыцу. Яна мяне шкадавала – раз-пораз частавала шакаладам ці яшчэ якімі прысмакамі. Аднойчы мы прыйшлі да яе разам з братам. Вова ўбачыў на падлозе растаптаную жуйку і паклаў яе сабе ў рот. Так мяне гэта збянтэжыла! Помню, мяне аж трэсла ад сораму!

Тыя, хто вырас у 1990-я, помняць, як у Беларусь сталі завозіць жавальныя гумкі з маляўнічымі ўкладышамі пад абгорткай. Мы называлі іх «мульцікі». Купіць блок гэтай гумкі – адна з самых запаветных дзіцячых мар. А дзе нам, дзецям-інтэрнатаўцам, такія грошы ўзяць? І вось аднойчы той мужчына зрабіў мне прапанову: «Пераспіш са мной – дам грошай на гумку». Я пагадзілася. Рабіла гэта потым яшчэ некалькі разоў… У рэшце рэшт аднаму брату я купіла тых гумак столькі, колькі ён захацеў, а другому – воданепранікальны гадзіннік, пра які ён так марыў.

## «Ніякай турэмнай рамантыкі не існуе…»

**– Праз кароткі час пасля таго, як маці вас забрала з інтэрната, вы першы раз трапілі за краты. За што?**

– Першы тэрмін у маім жыцці быў умоўны. Я скрала рэчы і атрымала два гады. Але не выканала ўмовы гэтага пакарання. Ведаеце, як у 16 гадоў на дыскатэку хочацца! А паводле ўмоў пакарання я павінна была вечарамі знаходзіцца дома. Назбіралася парушэнняў, і мяне адправілі на «малалетку», а адтуль – на дарослую зону. Я вам скажу адну простую рэч: ніякай турэмнай рамантыкі не існуе. Няволя ламае людзей, увогуле няпроста адаптавацца да турмы. Перш за ўсё псіхалагічна. Гэта зараз я магу прасядзець у любым зачыненым пакоі год-два – дайце толькі кнігі, цыгарэты і кіпень. А для таго, хто першы раз апынуўся за кратамі, – гэта шок! Але звыклася, прыцярпелася, выйшла на волю…

**– Каб ізноў вярнуцца туды менш як праз два гады…**

– Пасля першай адсідкі я прабыла на волі год і дзесяць месяцаў. Увесь гэты час у мяне былі пастаянныя канфлікты з мамай – яна не прымала майго ладу жыцця. Ёй не падабалася мая тагачасная кампанія, не падабалася тое, што я прыходжу дамоў не заўжды цвярозая. Скандалілі, сварыліся. У рэшце рэшт яна проста перастала пускаць мяне дамоў. На дварэ стаяла зіма, мне не было куды ісці. Тады я не прыдумала нічога лепшага, як зладзіць крадзеж. Скрала чыісьці красоўкі і магнітафон. І тут жа сама на сябе выклікала міліцыю і ва ўсім прызналася. Новы тэрмін – тры гады «хіміі». Там я таксама парушыла ўмовы ўтрымання – мне замянілі тэрмін на два гады рэальнага зняволення, якія я амаль усе правяла ў рэчыцкай турме. Выйшла адтуль на месяц раней за прызначаны тэрмін.

**– Пасля гэтага вы далі сабе зарок – закон больш не парушаць…**

– Дала. Марыла змяніць сваё жыццё. З юнацтва ў мяне была мара – выйсці на вялікую сцэну, хацела спяваць. І нават песні пісала. Помню, як прыехала з Валожына ў Мінск – тут праходзіў адбор на нейкі спеўны конкурс. Першы тур я прайшла, нават плакала ад шчасця. Вось яна, мара, здзяйсняецца! Да другога тура быў месяц. Але за гэтыя 30 дзён многае змянілася ў маім жыцці.

Па запрашэнні сяброўкі Святланы паехала да яе ў госці ў Бабруйск. Там мы трапілі на святкаванне сярэбранага вяселля яе знаёмых. Пасля застолля ў рэстаране здарыўся «працяг банкету» на нейкай хаце, больш падобнай на прытон. Падпіўшы, яе гаспадар захацеў авалодаць маёй сяброўкай. Пагражаў ёй нажом… Не ведаю, са страху ці як тое атрымалася, але я выхапіла ў яго з рукі зброю. І ўдарыла. Чатыры разы. Апошні ўдар стаў смяротным – нож прабіў сонную артэрыю. За забойства мне далі дзесяць гадоў, якія я адседзела «ад званка да званка». Гэта былі горшыя часы ў маім жыцці. Зняволеныя ў беларускіх турмах – гэта скот. Прынамсі такое стаўленне да гэтых людзей з боку адміністрацыі папраўчых устаноў. «Вы ўсе смецце», – гаварылі нам. А калі табе пра гэта гавораць што ні дзень, ты пачынаеш у гэта верыць… Ламаюцца многія, вытрымліваюць адзінкі.

## «Я веру ў людзей»

**– Вы вытрымалі?**

– Ну як сказаць… Напэўна, не. Чалавек, які вытрымаў, не стаў бы, напэўна, рэзаць сабе вены. А я гэта зрабіла. Дзякуй Богу, не вельмі ўдала – уратавалі.

Ведаеце, у чым самая галоўная праблема? У тым, што людзі, асабліва тыя, хто трапляе за краты на доўгі час, фактычна не маюць магчымасці для рэабілітацыі. Мы не можам вось так з ходу ўбудавацца ў жыццё.

Дый як? У мяне адукацыя восем класаў. Пасля турмы сястра мяне ўладкавала на адзін са сталічных малаказаводаў, там я мясіла тварог. Работа вельмі цяжкая. Уявіце сабе вялікую-вялікую ванну, запоўненую тварагом. Туды заліваюцца вяршкі, і ўся гэта маса перамешваецца ўручную. Гэта пекла! Але я зарабляла добра – каля 10 мільёнаў на старыя грошы. Напэўна, я працавала б там і па сённяшні, аднак турма забрала ў мяне не толькі частку жыцця, але і здароўе.

Я захварэла – страўнікавая грыжа, дактары кажуць, што выпадак неаперабельны. Таму цяжкую працу на малаказаводзе прыйшлося кінуць.

Зараз я жыву ў Слуцку, з працай там цяжка. Нават прыбіральшчыцай не бяруць з маім дыягназам. Збіраюся заняцца афармленнем інваліднасці, каб стабільна атрымліваць хоць нейкія грошы.

**– Ведаю, што зараз вы зноў займаецеся творчасцю. Да выхаду рыхтуецца ваш першы сольны песенны альбом.**

– Лёс звёў мяне з цудоўным чалавекам – музычным прадзюсарам і кіраўніком «Сяверын-студыі» Юрыем Сяверыным. Здаецца, ён мне паверыў і, што важна, паверыў у мяне, у мае здольнасці. Зараз і сапраўды сабраны матэрыял для запісу майго першага сольнага альбома. Ён мае назву « Я такая, як і ўсе». Але ўсё ўпіраецца ў грошы. Для таго каб выдаць альбом, патрэбна прыкладна 13 тысяч рублёў. Грошы збіраюцца на краўдфандынгавай платформе ulej.by. Спадзяюся, неабходная сума будзе сабрана, я веру ў людзей. І вельмі хачу, каб мая мара пра вялікую сцэну здзейснілася. Я ж маю права на шчасце, так?

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**P.S.** *Бліжэйшае выступленне Вікторыі Пятровіч адбудзецца 29 мая ў Палацы культуры Мінскага трактарнага завода. Пачатак у 19.00.*

## Прадзюсар Юрый СЯВЕРЫН: «Мне хочацца ёй верыць…»

– Ці веру я ў тое, што Віка выправілася і хоча нармальнага жыцця? Я хачу ў гэта верыць. Зараз мы многа з ёй працуем, размаўляем. Я стараюся вучыць яе жыццю. Не павучаць, а менавіта вучыць. Па сутнасці, палову свайго жыцця Віка знаходзілася ў іншым вымярэнні, дзе белае – гэта белае, а чорнае – чорнае. Яна знаходзілася ў жорсткіх, бязлітасных умовах. Трэба было выжываць, трэба было ўмець не толькі «біць у лоб», а і хітраваць, хлусіць… І за тыя гады, што Віка правяла за кратамі, гэта ўсё напоўніла кожную яе клетачку.

Але я веру, што Віка зможа сама стаць іншай і дапамагчы камусьці не паўтарыць свой шлях.

Спроба Вікторыі Пятровіч змяніцца – вось канкрэтны прыклад для маладых людзей. Для тых, хто на волі, для тых, хто за кратамі. Гэта гісторыя пра тое, што чалавек заўжды можа зрабіць правільны выбар, проста яму трэба ў гэтым дапамагчы.

Віка – гэта не музычны, а хутчэй сацыяльны праект. Хаця і вакальныя дадзеныя ў яе добрыя. Зразумела, што тут яшчэ ўсё трэба даводзіць да ладу, чым мы зараз і займаемся: яна вывучае сцэнічнае майстэрства, асвойвае ігру на гітары, вучыцца правільна спяваць.

Мы шмат чаго зрабілі. Пра яе лёс зняты дакументальны фільм, да выхаду рыхтуецца альбом, закончаны здымкі першага кліпа.

Усё гэта зроблена ў першую чаргу для моладзі. Прыклад Вікі павучальны для тых, хто толькі пачынае свой жыццёвы шлях. Яна, як ніхто, ведае пра ўвесь «рамантызм» знаходжання за калючым дротам.

Таму я, як яе прадзюсар, вельмі спадзяюся на падтрымку з боку Дэпартамента выканання пакаранняў і Міністэрства ўнутраных спраў. Мы спрабуем дастукацца да гэтых ведамстваў, дамагчыся падтрымкі нашага праекта, які назвалі «Хачу жыць». Спадзяёмся на разуменне і падтрымку.

Вельмі важна, на маю думку, каб Вікторыя Пятровіч, за спінай якой няпросты лёс, змагла гаварыць з людзьмі ў адкрытым фармаце – у школах, каледжах, універсітэтах, дзіцячых інтэрнатах, турмах.

ТУРЫЗМ-2019

## Лілія КОБЗІК:
# «Адпачынак у гэтым годзе для беларусаў падаражэў»

*Эксперт у вобласці турызму распавяла «Народнай Волі» пра новы турыстычны сезон.*

– Калі меркаваць па раннім браніраванні, то сігналы паступаюць добрыя, – кажа **Лілія КОБЗІК.** – І ў апошнія гады склалася некалькі найбольш папулярных для беларусаў накірункаў. Зараз, як ні дзіўна, на першае месца выйшаў Егіпет. У лідарах таксама Турцыя, Балгарыя і Адэская вобласць Украіны.

**– Кажуць, што ў гэтым годзе адпачынак у Турцыі падаражэў. Гэта так?**

– Падаражэў і даволі адчувальна. Турцыя перайшла ў зону еўра, і гэта адбілася на кошце пуцёвак. Да таго ж унутры краіны павысіліся цэны на тавары і паслугі. А вось якасць турэцкага турыстычнага прадукту па-ранейшаму самая высокая. Там пастаянна будуюць новыя пяцізоркавыя гатэлі, рэгулярна павышаюць узровень сэрвісу. Нават прадстаўнікі балгарскага турыстычнага бізнесу прызнаюць, што да Турцыі яны пакуль не дацягваюць.

Таму многія турысты і аддаюць перавагу Егіпту, бо заробкі ў беларусаў не настолькі выраслі, каб не лічыцца з коштамі, а адпачынак у Егіпце таннейшы. Да таго ж зараз з'явілася шмат прапаноў на адпачынак у Тунісе. Пэўны час з-за эканамічных і палітычных праблем у гэтую афрыканскую краіну турысты не ездзілі, але зараз усё аднавілася. Турыстычная інфраструктура ў Тунісе вяртаецца на ранейшы ўзровень, і зараз з Мінска і ўсіх абласных гарадоў Беларусі туды ёсць чартарныя рэйсы.



Чарнагорыя – гэта нацыянальная кухня, утульныя гатэлі, шыкоўнае мора...




**– Ці цікавыя беларускаму турысту еўрапейскія краіны?**

– Безумоўна, нягледзячы на тое, што, напрыклад, Іспанія альбо Італія – не самы танны варыянт, бо тут разліковая адзінка – еўра. Але ў кожнай краіне – свае перавагі. У той жа Іспаніі вельмі багаты выбар і жылля, і турыстычных аб'ектаў.

Ёсць магчымасці і для сямейнага адпачынку. Гэта Чарнагорыя, Харватыя, Грэцыя… Нацыянальная кухня, утульныя гатэлі, шыкоўнае мора. Развіваецца і албанскі накірунак. Там усё танней і можна паглядзець шмат прыгожых мясцін.

**– Самы даступны адпачынак – ва Украіне?**

– Так, на моры ў Адэскай вобласці больш за тыдзень можна адпачыць, патраціўшы крыху больш за 100 долараў, і гэта досыць танна. Такі варыянт найперш падыходзіць для тых, у каго мала грошай, але пагрэцца на сонцы і пакупацца ў моры хочацца.

Дарэчы, расце турыстычны паток з Беларусі і ў Грузію. Лятаюць на адпачынак у Батумі, Кабулеці. Многім вельмі палюбіліся экскурсійная праграма і грузінская гасціннасць.

Дарэчы, калі казаць пра падаражэнне адпачынку, то такая тэндэнцыя назіраецца па ўсіх накірунках. Пэўны час з-за ўнутраных і знешніх праблем турыстычная галіна ў Беларусі была калі не ў стагнацыі, то ў паўкрызісным стане, таму і кошты знізіліся. А зараз яны вяртаюцца на ранейшы дакрызісны ўзровень. Тым больш гэта адчуваецца, калі цэны на адпачынак растуць, а заробкі застаюцца на адным і тым жа месцы.

**– Калі казаць пра развіццё ўнутранага турызму, то колькі турыстаў у мінулым годзе прыехала ў Беларусь?**

– У 2018 годзе нашу краіну наведала 365 тысяч арганізаваных турыстаў-экскурсантаў. З іх з Расіі – 207 тысяч, з Літвы – 59 тысяч, з Польшчы – 46 тысяч, з Латвіі – 11 тысяч, з Германіі – 3 тысячы. Тры тысячы турыстаў прыехалі з Кітая, на які мы робім стаўку (нават надпісы ў аэрапорце і некаторых магазінах зроблены на кітайскай мове). Але, як бачым, аўчынка не варта вырабу, хаця ўвогуле прагрэс ёсць. У 2017-м Беларусь наведалі ўсяго 282 тысячы арганізаваных турыстаў.

Што тычыцца бязвізавага ўезду, то такім чынам Беларусь наведалі ў мінулым годзе каля 100 тысяч чалавек. У сярэднім людзі прыязджалі на 6 дзён, і пераважная колькасць турыстаў была з Літвы (54 тысячы) і Польшчы (38 тысяч).

Як бачым, менавіта суседзі нам «робяць касу» ў турыстычнай сферы.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ШАШКІ

## Двайны юбілей

Вядомаму беларускаму майстру гульні і шашачнай кампазіцыі **Вадзіму Булату** споўнілася 60 гадоў. Ужо 50 гадоў ён паспяхова займаецца складаннем шашачных кампазіцый. Віншуем юбіляра! Для «Народнай Волі» Вадзім Эдуардавіч даслаў свае новыя творы.



№1 **Белыя**: a1, e1, e7, f6, g5 (5).

**Чорныя**: a7, b4, c3, d2, h8 (5).

Знайдзіце выйгрыш за белых самастойна.

№2 **Белыя**: 17, 23, 27, 29, 33, 34, 35, 37, 48 (9).

**Чорныя**: 8, 9, 12, 13, 18, 26, 40, 44, 45 (9).

31, 14, 28, 9, 42, 30, 3, 50 х.

№3 **Белыя**: 17, 21, 22, 27, 28, 31, 39, 43, 49 (9).

**Чорныя**: 7, 9, 13, 18, 30, 34, 37, 40, 42 (9).

38, 16, 44, 17-11, 2, 3 х.

Нядаўна мы пісалі пра такі ж юбілей другога беларускага майстра **Валерыя Свізінскага**. Сёння падаём яго новыя кампазіцыі.

№4 **Белыя**: a5, b2, b4, c1, c3, f2, f4, g3, h6 (9).

**Чорныя**: a7, b6, c7, d6, d8, e5, e7, g5 (8).

e3(h4), g5!(d4**a**), c5, c5, f6, b8(e3), g3(c7, f2), d6(e1), c5(d2**A**), cb6, c3, c3 х.**A**(h4), f2, c3, c3 х. **a**(f6), a3(bc5), cd4, d2(de5), b4, b2, ef4 х.

№5 **Белыя**: шашкі f6, g3, дамка d8 (3).

**Чорныя**: шашкі c5, d4, e5, h6 (4).

fe7(b4**A**), f8(a3), b4, dh4(b4**B**), g3, a3 х. **A**(g5), f8(gf4, h2), d6, g1 х. **B**(g5), b4(e3), e1(f2**C**), c3 х. **C**(d4), b4/a5 х.

№6 **Белыя**: шашкі a5, b4, d4, f2, дамкаe7 (5).

**Чорныя**: шашкі a7, b6, c7, f4, h4 (5).

bc5(e3), ed6!!(c3), c7, d8, e1(b6), f2(a5), e1 х.

## Госці з Украіны

На 100-клетачнай дошцы прапануем знаходкі ўкраінскага кампазітара **Івана Івацкі**.



№7 **Белыя**: 9, 11, 14, 19, 22, 28, 46 (7).

**Чорныя**: 6, 8, 17, 29, 37, 42, 43 (7).

Знайдзіце выйгрыш за белых самастойна.

№8 **Белыя**: 16, 21, 26, 30, 32, 38, 39, 42, 43, 47, 49, 50 (12).

**Чорныя**: 7, 10, 12, 13, 19, 23, 25, 27, 28, 29, 34, 40 (12).

11, 2, 21, 32, 32, 38, 44, 42,16, 30 х.

№9 **Белыя**: 16, 18, 20, 23, 24, 25, 29, 36, 41, 43, 44, 46, 48, 49 (14).

**Чорныя**: 7, 8, 9, 11, 14, 21, 22, 27, 32, 34, 35, 37, 38, 40 (14).

15, 31, 27, 41, 49-43, 40, 23-19, 42, 41, 1, 24, 24 х.

## Школа кампазіцыі па архівах майстра

Працягваем вывучаць архівы **Мікалая Грушэўскага**. На гэты раз прыклад удасканальвання задумак. У архівах знайшліся два цікавыя міні-эцюды.

№10 **Белыя**: шашкі d2, g3, дамка f8 (3).

**Чорныя**: шашкі a5, h4, дамка e1 (3).

a3(b4**AB**), c5, g1 х. **A**(f2), c3, g1 х. **B**(c3), b4 х.

№11 **Белыя**: шашкі d2, g3, дамка f8 (3).

**Чорныя**: шашкі a5, g5, h4, дамка e1 (4).

a3(b4**AB**), e7, e1 х. **A**(f2), c3, e1 х. **B**(c3), b4 х.

Ідэю можна перанесці на 100-клетачную дошку і апрацаваць як дамачную праблему з дабаўленнем кампазіцыйнага варыянта.

№12 **Белыя**: шашкі 13, 27, 31, 32, 37, 40, дамка 4 (7).

**Чорныя**: шашкі 16, 25, 29, 30, 35, 43, дамкі 26, 36, 49 (9).

22, 48(27**A**), 42, 48, 49(30), 43(35), 49(21), 16, 11, 50 х. **A**(42), 26(27**BC**), 21, 8 х. **B**(21), 8, 49 х.**C**(44), 27, 49 х.

А вось як удасканаліў праблему №12 **Мікалая Грушэўскага** («НВ» ад 5 сакавіка 2019 г.) латвійскі складальнік **Генадзь Андрэеў**:

**Белыя:** a1, c3, d2, e1, f4, g3, g5, h4 (8).

**Чорныя**: b2, c5, c7, d6, e3, e5, f2, f8, h6 (9).

b4(~)c3, b4(c5) – Валееў Р., 2015 г. – d2, e1, d8, h4(c5), hf2(b4), e3, a5(e7), b6(d6), a7(e5), b8(d4), f4(c3), c1 х. З дакладным фіналам.

## Супаставім рашэнні

**№9** – f4(g3), a5(ef2), c7(h2), d4(e1**A**), cg3, f2, f2 х.**A**(hg1), b8(e1), ba7, f2, f2 х.

**№10** – de3, g7, f4, fg5, f2, f2 х.

**№11** – g7, e7, fg5, de3, e3, d2, g3, f2, f2 х.

**№12** – b6, c3, c3, b2, e3, d2, e1, h8, e5 х.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі**, **Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Клімавічы), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Рыгор Краўцоў** (в. Рублёўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец), **Ігар Гулік** (Мар'іна Горка), **Сяргей Бурко** (Орша).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць!

Заўвагі **Генадзя Андрэева**.

**№2** – ПР: 44-40...+ або 45-40...+. Каб паправіць, шашку 34 пераставіць на 35.

**№3** – ПР 1. 07-02...+, або 37-32...+, або 29-23...+.

**№4** – А(49)17:33/39...+ або 50:22...+.

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, «Шашкі»*** або на электронны адрас рэдакцыі: ***shulga.checkers@gmail.com***.

**Віктар ШУЛЬГА,**
**міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



# Чаму Уладзімір Парфяновіч не хоча з'язджаць з Мастоў

*Трохразовы алімпійскі чэмпіён па-ранейшаму працуе ў раённым цэнтры.*

Нагадаем, што раней славуты вясляр уваходзіў у трэнерскі склад зборных Польшчы і Расіі, але затым вярнуўся дадому і ўладкаваўся ў Мастоўскую дзіцячую спартыўную школу звычайным трэнерам.

– Я тут ужо амаль два з паловай гады працую «шараговым салдатам», – кажа Уладзімір Уладзіміравіч. – Складана ў тым плане, што я тут, жонка ў Мінску. Туды-сюды асабліва не наездзішся, а без сям'і сумна.

**– Можа быць, за два гады выраслі ў кар'ерным плане і адпаведна сталі атрымліваць большы заробак?**

– У мяне з улікам усіх дадатковых прэмій атрымліваецца каля 700 рублёў у месяц. Хаця гэта таксама ў сённяшніх умовах не грошы. Паглядзіце на кошты ў магазінах, якія пасля дэнамінацыі, магчыма, і незаўважна растуць, але робяць гэта стабільна.

Жонка, якая 40 гадоў аддала мастацкай гімнастыцы, якая ўсё жыццё трэнерам працавала з сямі раніцы да васьмі вечара, сёння атрымлівае пенсію 280 рублёў. У такіх выпадках кажуць: курам на смех!

**– Жонка зараз ужо нідзе не працуе?**

– Адпачывае, але ў той жа час неафіцыйна дапамагае сыну, які працуе трэнерам па тэнісе ў «Фалькон-клубе». Гімнастычныя практыкаванні неабходны спартсменам любога віду спорту, хаця многія гэтага не разумеюць і не звяртаюць на такую практыку ўвагі. А за мяжой гэта звычайная рэч. Каардынацыя, гнуткасць – гэта ж на першым месцы для любога спартсмена. А ў нас трэнеры працуюць па-старому і не хочуць новыя методыкі ўкараняць. Прасцей іголку з допінгам у мышцу ўвагнаць.

**– Ваш сын, здаецца, раней жыў у Расіі…**

– Так, таксама працаваў там трэнерам па тэнісе, але зараз вярнуўся ў Беларусь.

**– А мы вернемся ў Масты. Ці цікава вам, спецыялісту такога ўзроўню, працаваць з дзецьмі?**

– Я вам шчыра скажу: гэта мая любімая работа! Хаця часам і я стамляюся ад дзяцей, і яны ад мяне. Але і гэтай справай трэба займацца незалежна ад таго, якія ў цябе былыя заслугі і тытулы.

Увогуле, калі бачыш спорт самага нізкага ўзроўню, лепш разумееш, якія ў нас сёння праблемы. Вось, напрыклад, адна з іх – набор падлеткаў у спартыўную школу. Думаеце, лёгка гэта зрабіць? Як бы не так! Яны наогул не хочуць займацца спортам. Ім лянота, лепш у гаджэтах пасядзець. Пры тым што секцыя ў нас бясплатная, і веславанне – гэта не хакей альбо тэніс, тут ніякіх вялікіх фінансавых укладанняў не патрэбна.

Таму ў гэтым плане трэба прымаць кардынальныя меры, каб не згубіць здаровую нацыю, хаця, як кажуць, хвароба прагрэсіруе. Не так даўно ішоў набор у армію ў Мастоўскім раёне, павінны былі прызваць 37 хлопцаў. Здаровымі, якія могуць служыць, аказаліся толькі 17 чалавек.

Таму найперш у школах патрэбна большая ўвага да фізічнай культуры. Мы ездзім па школах, па вёсках, збіраем дзяцей па адным. Але праблему трэба вырашаць на дзяржаўным узроўні.

**– Раней вы казалі, што ў школе ёсць невялікія праблемы з матэрыяльнай базай. Можа, зараз сітуацыя выправілася?**

– А хто нам грошы дасць на вырашэнне гэтых праблем? Няма іх у краіне на дзяцей, усе, відаць, пайшлі на падрыхтоўку Еўрапейскіх гульняў. У нас майстры пусціць пыл у вочы ўпэўнены, што правядуць мерапрыемства шыкоўным чынам і кожны атрымае свае дывідэнды. Як кажуць: народу – хлеба і відовішч!

Але ў нас больш зямныя праблемы. Хацелася б і трэнажоры займець, і замяніць старэнькія лодкі, і базу рэканструяваць, і сталовую пабудаваць, каб дзеці добра харчаваліся. А то едзем на зборы, а на харчаванне даюць падлеткам у суткі 10 рублёў. Гэта такая вызначаная норма. Хіба за такую суму можна нармальна паесці тры разы ў дзень? У мяне хлопцы у мінулую суботу праехалі па 40 кіламетраў, ім жа сілы падтрымліваць трэба. А практычна ўсе мае выхаванцы – сіроты, ім нават няма каму дапамагчы.

**– Лодкам ужо па колькі гадоў?**

– Па 20–25 гадоў на іх ездзяць. Праўда, на спаборніцтвы бяром камплект новых лодак. А на трэніроўках імі не карыстаемся, беражом.

**– За два з паловай гады працы ўжо можаце пахваліцца нейкімі вынікамі? Магчыма, нехта з выхаванцаў ужо засвяціўся як будучая зорка?**

– Каб вывесці спартсмена на ўзровень, патрэбны не два-тры гады працы, а як мінімум сем-восем. За два-тры гады можна дапамагчы выхаванцу ўжо высокага класа выйсці на новы ўзровень, а ў нас дзеці робяць яшчэ першыя крокі. Не ўсё так проста.

**– Не паступалі вам за гэты час больш сур'ёзныя прапановы?**

– А я пакуль нікуды не хачу з'язджаць з Мастоў. Усіх грошай не заробіш, а хочацца займацца ўласным здароўем, любімай працай і жыць з задавальненнем на заробак і спартыўную пенсію ў 360 рублёў. Вось і жыву…

**Алесь СІВЫ.** Фота svaboda.org.

ФУТБОЛ

# БАТЭ пацвярджае клас

*Прайшлі матчы 2-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: «Мінск» – «Дынама» (Мінск) – 0:0, «Гарадзея» – «Віцебск» – 1:1, «Энергетык-БДУ» (Мінск) – БАТЭ (Барысаў) – 0:4, «Слуцк» – «Гомель» – 0:6, «Нёман» (Гродна) – «Шахцёр» (Салігорск) – 0:3, «Тарпеда» (Мінск) – «Іслач» (Мінскі раён) – 1:0, «Славія» (Мазыр) – «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – 1:2, «Дынама» (Брэст) – «Дняпро» (Магілёў) – 3:1.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 2 | 2 | 0 | 0 | 6–0 | 6 |
| Шахцёр | 2 | 2 | 0 | 0 | 4–0 | 6 |
| Дынама (Бр) | 2 | 2 | 0 | 0 | 5–2 | 6 |
| Дынама (Мн) | 2 | 1 | 1 | 0 | 1–0 | 4 |
| Тарпеда-БелАЗ | 2 | 1 | 0 | 1 | 3–3 | 3 |
| Іслач | 2 | 1 | 0 | 1 | 2–1 | 3 |
| Нёман | 2 | 1 | 0 | 1 | 3–5 | 3 |
| Тарпеда | 2 | 1 | 0 | 1 | 1–1 | 3 |
| Гомель | 2 | 1 | 0 | 1 | 8–3 | 3 |
| Віцебск | 2 | 0 | 2 | 0 | 1–1 | 2 |
| Мінск | 2 | 0 | 2 | 0 | 0–0 | 2 |
| Энергетык-БДУ | 2 | 0 | 1 | 1 | 0–4 | 1 |
| Слуцк | 2 | 0 | 1 | 1 | 0–6 | 1 |
| Гарадзея | 2 | 0 | 1 | 1 | 1–3 | 1 |
| Славія | 2 | 0 | 0 | 2 | 1–3 | 0 |
| Дняпро | 2 | 0 | 0 | 2 | 1–5 | 0 |




fcminsk.by

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 08.04.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 068 экз. Заказ № 1226.

9 772071 964000 19028